«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (189), травень 2022 года



Літаратурная Беларусь

Выпуск № 5 (189) (травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online
facebook.com/litaraturnaja.belarus

## Змест



# «Калі ў свеце ідзе вайна...»


Фота dumskaya.net

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

### Два полі

*Было ў салдата два полі,*
*поле, дзе кветкі ірваў,*
*бегаў з сябрамі на волі,*
*і поле, дзе ён ваяваў.*
*Ціха было і чыста*
*ў полі яго дзяцінства,*
*былі агонь і дым*
*на полі ратным тым.*
*Два полі было ў салдата.*
*Адно зелянела травой,*
*другое было ўзарата*
*вайной і паліта крывёй.*
*Было ў салдата два полі,*
*поле, дзе кветкі збіраў,*
*бегаў з сябрамі на волі,*
*і поле, дзе ён паміраў.*

Наталля ГАЛАВАЧ

### Гора

*Гора.*
*Кахаюць адзін аднога.*
*Ці не кахаюць.*
*Дык любяць?*
*Усё быць можа.*
*І ўдачлівы, і нябога,*
*сляпымі сваімі крокамі людзі няўцямныя*
*ішлі б да Бога,*
*ці паўзлі б, можа.*
*А хутка марозы*
*за дажджамі гэтымі палезуць у хаты,*
*у кватэры — на паверх першы*
*і паверх пяты.*
*Ці будзе агмень там, дзе брат брата*
*б'е наводмаш, ірве гарматай?*
*Кахаюць адзін аднога.*
*Ці не кахаюць.*
*Ды на Чорнае мора*
*адпачываць едуць, не маючы гора.*
*Ходзяць па пляжы,*
*віно п'юць, спіну грэюць,*
*смоквы ядуць, ці так дурэюць.*
*А тут, над Дняпром,*
*пад задымленым небам*
*да грудзей прыціскае,*
*туліць калоссе хлеба*
*дзяўчынка з вачыма*
*ахвяры Галадамора.*
*Не любяць адзін аднога.*
*І не кахаюць.*
*Гора.*
*Людзі, ці вылюдкі вы?*
*Ці ўроды?*
*Хапала РОЗНАГА заўсёды народа.*
*Не ведаю, што рабіць.*
*Рабіць што*
*з дзіцячым паглядам з дакорам?*
*З зернем спелага хлеба?*
*На худзенькім целцы Галадамора*
*ляжыць пад задымленым*
*кіеўскім небам*
*гора.*


Фота RIA News

Ніл ГІЛЕВІЧ

### Часцей, часцей прыпамінай...

*Часцей, часцей прыпамінай...*
*Імёны паўшых смерцю храбрых*
*За родны край, наш мілы край, —*
*Каб над зямлёй, што млела ў ранах,*
*Плыў гэты сіні-сіні ранак,*
*Цвіў гэты белы-белы май, —*
*Часцей, мой друг, прыпамінай!*
*Прыпамінай часцей, мой друг,*
*Імёны тых, хто ўсё зрабілі —*
*Вышэй усіх тваіх заслуг,*
*Што, як і ты, да слёз любілі*
*Маністы ўвосень на рабіне*
*І ў ліпкіх смолках майскі луг, —*
*Не забывай пра іх, мой друг!..*

Васіль ЗУЁНАК

### Яшчэ планета не астыла...

*Яшчэ планета не астыла,*
*Яшчэ агнём бурліць нутро,*
*У ліхаманцы рвуцца жылы*
*Вякамі скручаных вятроў.*
*Яшчэ пад намі узрываецца*
*Закутай цішыні*
*пухір:*
*Як зубы,*
*горы прарazaюцца,*
*І лава спапяляе жвір...*
*Яшчэ б люляць зямлю ў пялёнках*
*Людскіх турбот, людскіх надзей...*
*А хтось гвалтоўна і шалёна*
*Ёй бомбу на плячо кладзе.*
*Трымай!*
*Трымай, хоць цела млее,*
*Нясі, пакуль бікфордаў шнур —*
*Цяжкая памяць —*
*не датлее —*
*І выбухнуць мільёны бур!..*
*І ўсё змяшаецца імгненна*
*У першародную жуду...*
*І я —*
*апошняе калена*
*Людскога племя —*
*не прыйду,*
*Каб зноў цябе красой аздобіць,*
*З табой смяяцца, плакаць, жыць...*
*...Зямля мая!*
*А можа, хопіць*
*Ісці да вогненнай мяжы?..*
*Бушуй сабе*
*гарачым чэравам,*
*З глыбінь вяршыні узнімай!*
*Ды помні пра дарогу*
*з чэрвеня*
*У светлы той*
*і горкі май.*

Аляксей КАРПЕНКА

### Енк залунае шматкроць

*енк залунае шматкроць*
*смерць зойдзецца чорным пеўнем*
*куля ўкапаецца ў плоць*
*нахабна надзейна і ўпэўнена*
*пекла прызначыць нам*
*спатканне ў часах і прасторах*
*кожны свінцовы грам*
*настаўніцкі дотык гісторыі*

Вольга КАЗУН

### Калі ў свеце ідзе вайна...

*Калі ў свеце ідзе вайна —*
*Вынішчае зямлю і неба,*
*Спапяляе ўсё яна*
*Сваім подыхам азвярэлым.*
*Хіба хто з нас вайны хацеў?*
*Не чакалі яе і не звалі.*
*Забірае вайна людзей,*
*Забірае ў нябесныя далі.*
*Людзі добрыя, супраць вайны*
*Мы павінны стаяць гарою.*
*Памажыце маёй зямлі,*
*Каб не стрэцца з такой бядою.*

Марыя КОБЕЦ

### Вольнасць

*Хто вы, створаныя,*
*што п'юць напой,*
*настаяны на крыві сваіх дзяцей?*
*Вы, зневалёныя драбязгой-медзякамі,*
*замураваныя ўласнымі рукамі,*
*закратаныя сваімі ж думкамі...*
*Хто піша вашыя каноны?*
*Якія прынцыпы стаяць на чале?*
*Якая вартасць вашай існае?*
*Здыміце заслоны з вачэй,*
*пачвары прадажныя, —*
*рэчаіснасць змяніла фарбы.*
*Дзень адгарыць ужо заўтра.*
*Сёння — далёка не ўчора.*
*Сёння — даўно не ваш час,*
*сёння — пара дзяцей вашых дзяцей.*
*Які падмурак вы ім будуеце?*
*Якім будзе будынак?*
*Дом без вокан і дзвярэй?*
*Насельнікі яго — без вушэй,*
*вачэй і мовы...*
*Якой будзе іх прышласць?*
*Хто за вас будзе глядзець*
*у вочы вашых унукаў?*
*Хто?*
*Адкажыце найперш сабе!*
*нелюдзі,*
*што п'юць напой,*
*настаяны на крыві сваіх дзяцей,*
*напой, што завецца Вольнасць.*

Максім ТАНК

### Ластаўкі

*Тут жорсткі бой нядаўна быў.*
*Стаіць счарнелая вярба,*
*і вадасточная труба,*
*ў якую дождж і гром трубіў,*
*усім абвяшчаючы вясну,*
*вісіць аглохшы, а над ёй*
*будуюць зноў прытулак свой*
*дзве ластаўкі.*
*І на сцяну*
*ужо ўзабраўся дзікі хмель,*
*нібы чакае, што ў акне,*
*як некалі, яму мільгне*
*рука ці кос дзявочых бель.*
*На вуліцы баец стаіць.*
*І ён угледзеўся ў акно,*
*нібы спадзеючыся зноў*
*сустрэць ля гэтых камяніц*
*і дзеўчыну і маладосць.*
*А мо', пакуль яны дамоў*
*з далёкіх вернуцца шляхоў,*
*пільнуе ластавак гняздо?*

# Рытмы песень

***120 гадоў таму 20 траўня непадалёк ад Мінска ў вёсцы Каралішчавічы нарадзіўся адзін з самых таленавітых і трагічных беларускіх паэтаў Язэп ПУШЧА (Іосіф Паўлавіч Плашчынскі).***

***Ён быў пятым сынам у сям'і непісьменных сялян. Рана далучыўся да працы і ў дванаццаць гадоў, паводле яго слоў, «у касьбе амаль не адставаў ад дарослых».***

***Пасля заканчэння Мінскага рэальнага вучылішча накіраваны настаўнічаць у родную вёску. Вучыў дзяцей па-беларуску, а затым (з уласнай ініцыятывы) пачаў выкладаць ім яшчэ нямецкую і французскую мовы.***

***У 1923 годзе стаў адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Як малады аўтар прыехаў выступаць у Слуцк — і пазнаёміўся з мясцовай дзяўчынай Станіслаўай Шпакоўскай, з якой падзяліў сямейнае шчасце.***

***Вучоба ў БДУ, у Ленінградзе… Пераход у літаратурнае аб'яднанне «Узвышша», публікацыя арыгінальных паэтычных зборнікаў «Раніца рыкае», «Vita», «Дні вясны»…***

***Пасля вяртання ў Мінск уладкаваўся стыль-рэдактарам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. А праз год — у 1931-ым — разам з калегамі-літаратарамі (на сёння — класікамі) Максімам Гарэцкім і Адамам Бабарэкам быў абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі, ва ўдзеле ў неіснуючай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» і высланы на Урал, дзе працаваў бухгалтарам у саўгасе. Пасля заканчэння судовага тэрміну выкладаў рускую літаратуру на Мурамшчыне (Расія), хаваючы сваё літаратурнае мінулае.***

***У гады вайны — на фронце. Пасля рэабілітацыі судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР у 1956 годзе з сям'ёй вярнуўся ў Беларусь.***

***Частка творчай спадчыны — зборнікі «Мой Маніфест» і «Грэшная кніга» — загінула (рукапіс першага, схаваны ў вуллі, пасля арышту быў спалены сястрой).***

***У 1960-я гады выдаў некалькі зборнікаў, але ўжо савецка-традыцыйнай «парадна-ўрачыстай» паэзіі.***

***Да апошніх дзён (памёр 14 верасня 1964 года) жыў у Мінску. Пахаваны ў родных Каралішчавічах.***



Язэп ПУШЧА

## З паэмы «Лісты да сабакі»

***

*Жыву цяпер я ў шумнае сталіцы,*
*Далёка ад цябе, мой любы дружа.*
*Ляжыць акраец хлеба на стальніцы,*
*А ў збане на вакне юнацтва ружа.*

*Вятры павеюць хутка золкай сцюжай,*
*І ліст крывавы свой яна ўроніць,*
*Праходзіцьме натоўп з душой няўхлюжай*
*І ў гразь утопча, апусціўшы скроні.*

*І толькі я адзін, паэт бяздомны,*
*Над ім схілюся й акраплю слязамі.*
*Тады зброснеюць душы затоны,*
*Калі ў грудзёх мой дух зусім мне займе.*

*А покуль: б'е жывой вады крыніца*
*І хваля творчая гарачым пульсам.*
*Нашто ж мне падхалімам быць, крывіцца*
*І ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам?*

*Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў*
*І супраць ветру размахнуць крыламі.*
*Хто хоча — кпіце над пяснярскім лёсам*
*І бэсьце, лайце у гандлярскай краме.*

*Трывожнасць рытму песню агартае, —*
*Нязнана-вострыя боль у адчуваннях.*
*Мне лепей быць звычайным бы ратаем,*
*Чым грэх з сябе змываць ў атрутнай ванне.*
*Даруй, што я пішу табе аб гэтым, —*
*Тваё нутро гатоў яшчэ расчуліць.*
*Вартуй, вартуй лепш хату да рассвету,*
*Вуглоў каб не разнеслі людзі вуліц.*

*Я ведаю — цяпер у вас там восень*
*І ночы чорныя жуду калышуць.*
*Вятры лісты ажоўклыя разносяць*
*І намятаюць гурбамі ў зацішак.*

*І ты адзін правеў у ноч такую,*
*Правёў мяне ў далёкую дарогу.*
*Гадзіну гэту кожны год святкую*
*І слухаю, ці ў дзверы хто не дрогне.*

*Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі…*
*Хтось рукі заламаў у далях сініх.*
*Вартуй, мой дружа, родны ганак, —*
*Пішу аб гэтым я табе з Расіі.*

***

*Ці я ў тэатры, ў рэстаране п'яным,*
*Дзе радасць распіваюць пад джаз-банд,*
*Усюды зрок вачэй блакітных вяне,*
*І ўсюды бачу я жалобны бант.*

*Няхай сабе я сёння й страшна хворы,*
*Не трэба ўсё ж рэцэптаў для душы.*
*Сталеццямі гараць і свяцяць зоры,*
*І іх вятры не ў сіле затушыць.*

*Няхай, няхай гавораць так і гэтак,*
*А я пішу табе ўжо трэці ліст,*
*Няхай сабе аблаюць і ў газетах,*
*Мо ўспомніць часам хто калісьці.*

*Мой дружа, ці ж у гэтым рытмы песень*
*І смутак нашай сонечнай красы?*
*Калі паэт галоў на грудзі звесіць,*
*Няўжо краіне ён тады не сын?*

*Мне часта зябка й холадна бывае,*
*І ўсё ж ніхто ні разу не сагрэў,*
*Не цалаваў жа здраднымі губамі*
*Ніколі я лістоў, апаўшых з дрэў.*

*Стаю вось перад Зімнім тут палацам*
*І ўвесь, не ведаю й чаго, дрыжу.*
*І сам не ведаю, чаго так плачу…*
*Хто там? Прыйдзі хутчэй і укрыжуй!*

*Канец хай будзе ўсім маім цярпенням;*
*Няхай лісты развеюцца з асін,*
*З чала краіны вырву ўсё ж я церні,*
*Каб болю іх не ведаў болей сын.*

*Няўжо мне ранаў песня не загоіць,*
*Што гэтакі трывожны б'ецца пульс?*
*Паэт, які не ведае агоній,*
*Не здолее уславіць Беларусь.*

*Ой, гэта слова, слова дарагое!..*
*Ах, дружа мой, заўсёды рытм саб'е!*
*Я ж напісаць хацеў зусім другое,*
*Хацеў у госці запрасіць цябе.*

*Адно вось толькі думы непакоіць:*
*Ці ўдасца ўсё ж даехаць да мяне?*
*Ну, скажам, адвязуць к чыгунцы коні,*
*Аж бліснуць зоры ў полі з-пад саней.*

*А там білет, і ты ў вагоне спальным;*
*Ты снедаць зможаш ў рэстаран зайсці,*
*У ім зімою зеляняюць пальмы,*
*І думаеш: зімы няма ў жыцці.*

*А на вакзал, на светлую платформу*
*Прыйду я сам, прыйду цябе сустрэць.*
*Адзін другога горача прыгорнем, —*
*Даўно, даўно не меў такіх я стрэч.*

*Не ўспееш з дому перадаць вітання,*
*Шчэ вочы будуць ў радаснай жальбе,*
*І тут жа раптам горыч развітання, —*
*Ў сталіцы не дазволяць жыць табе.*

*Адзет не будзеш ты ў парадны кіцель,*
*Не будзеш мець заслугі — медаля,*
*Збягуцца і абступяць цябе гіцлі,*
*І будзе шмат іх: дзе ні стань, ні глянь.*

*Жыві, жыві, знаць, дома лепей;*
*Услухвайся ў таемны шум і шэпт,*
*Чужыя людзі ходзяць каля склепа.*
*Пільнуй! Цябе цалуе твой Язэп.*

***1927***

## Крытыку

*Не закрыў пакуль павекі,*
*Ты ў душу маю не плюй:*
*Маю годнасць чалавека*
*І зняваргі не сцярплю.*

*Адбіраў на песню права,*
*Выдзіраў душу з грудзей.*
*Ты хацеў хаўтуры справіць*
*У цямніцы без людзей.*

*Вёў мяне ў турму пад рукі,*
*Каб схіліўся там я ніц.*
*Зневажаў штодзень у друку,*
*Лаяў на чым свет стаіць.*

*Піць прасіў, бо чэз ад смагі,*
*Сэрца білася ледзь-ледзь,*
*І цяклі па твары рагі,*
*І ў вачах стаяла смерць.*

*Не пачуў. Шукаў ты доўбні,*
*Каб з размаху… і каюк.*
*Ты хацеў, мой крытык добры,*
*Кінуць цела ў цёмны люк.*

*Ты крапіў сваім кадзілам,*
*Уздыхаў ледзь не да слёз…*
*Беларусь, мая Радзіма,*
*Вось які пясярскі лёс.*

*Крытыка свайго, Іуду,*
*І па смерці помніць буду.*

***1957***

## «Выстрыгалі з фотакартак…»

*Выстрыгалі з фотакартак,*
*Выстрыгаюць і цяпер.*
*«Ўспамінаць яго не варта*
*Ні ў нядзелю, ні ў чацвер.*
*Праўда, быў такі калісьці,*
*Толькі лепш, каб не было, —*
*Не прынёс ані карысці,*
*У нябыт усё сплыло».*
*Вось як сталася яно,*
*І ці думаў ты, Язэп?*
*Чэмер п'еш, а не віно,*
*Дораць камень, а не хлеб.*

***1960***

## За ўсё, за ўсё вам дзякуй

*Асенні дождж адплакаў,*
*Апаласкаў парэнчы крат…*
*За ўсё, за ўсё вам дзякуй:*
*І за цынгу, і за інфаркт.*

*Яшчэ ўстаю з пасцелі,*
*Каб дапісаць апошні сказ.*
*Бары не адшумелі,*
*І залаты прамень не згас.*

*Яшчэ жывуць надзеі*
*І акрыляюць дум узлёт.*
*Скажыце, дабрадзеі,*
*Чаму у вашых сэрцах лёд?*

*Не грэе ён, а студзіць,*
*Аж ледзянее ў жылах пульс.*
*За песні не асудзіць*
*Мяне Радзіма Беларусь.*

*За словы праўды горкай*
*Я прабачэння не прашу,*
*Хоць і заходзіць зорка,*
*Але не плюйце мне ў душу.*

*Мае браты-браточкі,*
*З народам быў я на сяўбе.*
*Народ і ў дзень святочны*
*Мяне пакліча да сябе.*

***1962***



Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка і Андрэй Александровіч. 1925 г.

# Васіль БЫКАЎ: «Тое, што мы прызвычаіліся лічыць злом, рабілася дабром»

**«Літаратурная Беларусь» працягвае друкаваць фрагменты гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, — на гэты раз пра нашую духоўную гісторыю, знішчэнне традыцыйнай маралі, спадзяванні на замежжа, магчымасць далейшага развіцця «тэмы вайны», безадносныя ісціны і д'ябальскі баланс дабра і зла.**



Фота bibldrog.by

***— У сваіх публіцыстычных выступленнях вы, Васіль Уладзіміравіч, досыць песімістычна ацэньваеце жыццё старэйшых пакаленняў савецкіх людзей: як жыццё, патрачанае без сэнсу, упустую, бязмэтна... Калі б такі прысуд вашаму пакаленню выказаў мой равеснік... Але, уяўляецца, жыцця без мэты ўвогуле не можа быць — чалавек заўсёды шукае суладдзя са сваім часам. Можа, не так усё адназначна змрочна ў нашай духоўнай гісторыі, і не ўсё так безнадзейна цяпер?***

— Жыццё ўсіх пакаленняў нашай няшчаснай краіны вельмі ж незайздроснае, у тым ліку і таго пакалення, да каторага належыць ваш суразмоўнік. Але ўся справа, мусіць, у адносінах да тае незайздроснасці: адны яе саромеюцца, другія ёю ганарацца. Адны імкнуцца асэнсаваць сваё мінулае, каб здабыць з яго нейкі, хай сабе маральны, урок, іншыя — каб здабыць якую выгоду. У нас ідзе барацьба за прывілеі, па сутнасці — за кавалак смярдзючай каўбасы, якую не ядуць сабакі. І тут цікава тое, што некаторых абурае не сама сутнасць тае паскуднае барацьбы, а яе пэўны вынік. Звычайна ў такіх выпадках навучыліся гаварыць: так, подла, па-свалачному жылі, але ж верылі шчыра, быў энтузіязм! Саджалі, калектывізавалі, будавалі. І высылалі. І даносілі. І супрацоўнічалі...

Але мне думаецца, што чалавек з нармальнай, не пашкоджанай псіхікай у такім выпадку лепш прамаўчыць, каб не дэманстраваць не толькі відавочную амаральнасць свайго жыцця, але й сваё дрымучае глупства. Так, сапраўды, не ўсё так адназначна ў нашай гісторыі, ды і псіхалогіі таксама. Пакаленні людзей, якія за шмат гадоў прызвычаіліся існаваць у дагары нагамі перакуленым свеце, па той бок славутага люстэрка, і на старасці гадоў не здольны зразумець свае трагедыі, — гэтыя пакаленні для нацыі страчаны, таксама як і для чалавечай гісторыі.

***— Але, здаецца, з падзеннем імперыі парушыўся пэўны лад жыцця — хай і саветызаваны, наскрозь міфалагізаваны, пракамуністычны — але ж усё-такі ЛАД, са сваёй гармоніяй і нават спецыфічнай эстэтыкай, пэўнай маральнай кансерватыўнасцю. І вось цяпер гэты лад — парушаны, а разам з ім парушаны не толькі палітычныя інстытуты і дзяржаўнасць, але й уладкаванасць псіхалагічнага існавання мільёнаў людзей. Парушаны лёсы.***

***Вас не трывожыць магчымае выспяванне тут агульнай, мо самай балючай для нашых суайчыннікаў духоўна-псіхалагічнай праблемы?***

— Розныя бываюць «лады» і «парадкі». Самы ўзорны быў, мабыць, славуты нямецкі «орднунг», нацысцкі «новы парадак» у Еўропе. Камуністычны парадак таксама на шмат пасягаў (калі не на ўсе), толькі ўсяго не дамогся — мабыць, не тыя былі выканаўцы. Усё ж, не зважаючы на бясконцае, сістэмнае «натаскивание» (у гуртках, універсітэтах, ВПШ, акадэміях), кадры пакрысе гублялі рэвалюцыйную ленінскую апантанасць і памалу, але няўхільна перараджаліся ў звычайных бессаромных хапугаў — хапугаў кабінетаў, чорных аўтамабіляў, дачаў... Натуральна, цяпер, калі мяняецца сацыяльны характар грамадства, узнікае бязладдзе, парушыліся і лёсы людзей: скарочаных апаратчыкаў, звольненых міністэрскіх чыноў, беспрацоўных (часова, аднак) сексотаў, велізарная армія абслугі: парыльшчыкаў з урадавых саўнаў, пакаёвак, шафёраў, ахоўнікаў... Вядома, ім трудна, няўтульна, нязвыкла. Але іх можна-суцешыць: усё тое часова. Новыя нацыянальна-бюракратычныя структуры, якія скрозь бурна ствараюцца, нікога не пакінуць забытым, усіх падбяруць у сваю шырокую арбіту... Гэта я кажу з упэўненасцю, бо, відаць, новыя задачы немагчыма вырашыць без старых, «выпрабаваных» кадраў. Даўно вядома, што «падпэцканыя» служаць больш верна, чым «чысценькія».

***— Пры зменах заўсёды важна, ШТО ідзе на змену ўчарашняй ментальнасці і ўчарашняй гармоніі... Калі своечасова пазбавіцца «дэмакратычнай зададзенасці» ва ўспрыманні падзей, дык можна ўбачыць відавочны наступ заходняй масавай культуры — прычым самых паталагічных, самых «утылізаваных» яе праяў. Кіно цяпер у нас — панамерыканскае (наскрозь насычанае псіхалагічным тлумам, дэструкцыяй), літаратура — камерцызаваная, трылерна-сэксуалісцкая. Выглядае, такім чынам, што новы духоўна-інфармацыйны паток таксама адчужаны ад нармальнай псіхалогіі і «здаровага сэнсу», а самае галоўнае — ад духоўнага жыцця, культуры простага народа. Вам не здаецца, Васіль Уладзіміравіч, што духоўная сфера нашага грамадства пачала яшчэ больш актыўна развівацца ў кірунку канчатковага знішчэння традыцыйнай маралі, цалкам не знішчанай савецкім ладам, і ў гэтым — больш жахлівая трагедыя, чым маральны распад часоў застою?***

— Перш чым жахацца ад тае перамены, мне думаецца, няблага паглядзець, як гэта выглядае ў іншых краінах. У тых, дзе прагрэс пачаўся раней, чым у нас, зайшоў далей... Кожны народ пры нармальным (без гістарычнай паталогіі) развіцці праходзіць пэўны, аб'ектыўна азначаны гісторыяй шлях, пераскочыць асобныя звенні якога нікому не дадзена. Нельга з феадалізму адразу сягнуць у сацыялізм, з эканамічнага прымітыву Верхняй Вольты інтэгравацца ў высокаразвіты Еўрапейскі Саюз, ад бальшавіцкага лікбезу ўзвысіцца да сучаснай еўрапейскай культуры. Мусіць, спярша трэба назапасіць эканамічны, культурны, маральны капітал. Наша дэмакратыя з'яўляецца дэмакратыяй пачаткоўцаў, а наша знявечаная бальшавізмам, дэнацыяналізаваная культура, вядома ж, яшчэ не валодае патрэбным імунітэтам да горшых праяў так званай масавай культуры Захаду. Відаць, і нам трэба прайсці нейкі абавязковы гістарычны прамежак, каб выпрацаваць высокія ўзоры культуры, а галоўнае — ПРЫВІЦЬ ГРАМАДСТВУ ГУСТ І ПАТРЭБУ Ў ВЫСОКІМ. Хоць, зрэшты, узоры высокай культуры, як і высокі густ — болей прывілея эліты, а масы задавальняліся культурай ніжэйшага гатунку. Так ва ўсім свеце, так мусіць быць і ў нас. Шмат што ў гэтым сэнсе будзе залежыць ад духоўнай патэнцыі нацыі, якой у беларусаў даволі за стагоддзі назапашана, зберажона ў геннай памяці, не выдаткавана ў суровым жыцці і цярпліва чакае свае магчымасці для выяўлення. І тое суцяшае.

***— Але грамадства мае сталую патрэбу маральнага апірышча, не зважаючы на сацыяльныя, гістарычныя катаклізмы... Духоўныя «пастыры» ў грамадства ўвесь час знаходзяцца... Старой сістэме служыла вялікая частка інтэлігенцыі, у тым ліку і пісьменнікі. Так, гэта былі «камунізаваныя» людзі, паслугачы Яе Вялікасці Улады, але, здаецца, яны былі і арганічнай часткай народа (прынамсі, выхадцамі з яго)... Народ заўсёды жыў клопатам пра сваё зямное, галоднае, турботнае, нярэдка страхавітае жыццё. Наша беларуская інтэлігенцыя каялася болей моўчкі — за «грэх» беларусізацыі 20-х гадоў (вядома ж, каб уратавацца і выжыць ва ўмовах сталінскага тэрору). Праўда, тое ўратавала не ўсіх, затое паслужыла добрым урокам жаху, якога ёй хопіць, мабыць, ажно да канца стагоддзя. Ці не з тае прычыны так цяжка ідзе новая «беларусізацыя» з яе плачэўнымі вынікамі? На першым Міжнародным кангрэсе беларусістаў у траўні 1991 года вы казалі, што наша эміграцыя можа стаць ашчаднікам нацыянальнай існасці. Ці не перабольшаныя спадзяванні на замежжа?***

— Вядома, беларуская дыяспара таксама розная ў сваіх маральна-палітычных якасцях, але, наколькі я разумею, для нас яна куды даражэйшая за ўсе іншыя дыяспары. Прынамсі, яе самыя сумленныя і актыўныя прадстаўнікі, асабліва за акіянам. Усё ж у часы тутэйшага «бязладдзя і бязмоўя» яны захавалі родную мову, рэшткі нацыянальнай культуры, гістарычную памяць, зберaглі хрысціянскую мараль, непадлеглую там бальшавізацыі ды расчалавечанню, і што маглі, рабілі для развіцця культуры. (Адзін Данчык чаго варты! А там яшчэ ёсць Белямук, Кіпель, Запруднік, Шукелойц і іншыя.) З грузам для нашых чарнобыльскіх небаракаў некалькі разоў прыязджаў айцец А. Надсан. Варта будзе нагадаць, колькі бруду — вулічнага і псеўданавуковага — было выліта на сівую галаву гэтага руплўца са старонак камуністычных выданняў. І завошта, у імя чаго? Мабыць, таму, што патрэбны былі знешнія ворагі, шмат ворагаў, каб, змагаючыся з імі, апраўдаць паразітычнае існаванне антынародных структур КДБ, ВПК, МУС, ГРУ, розных першых аддзелаў і тысяч штатных ды самадзейных сексотаў... А цяпер во — прымаем з рук святара прывезеныя з-за мяжы лекі...

***— Зусім нядаўна мы думалі, што дастаткова будзе асэнсаваць сталінізм, і больш не застанецца «белых плям» у нашай гісторыі (дакладней — у нашым яе разуменні). Аднак жа, «развянчаўшы» сталінізм, грамадская думка пайшла далей раскопваць «кар'ер» нашай мінуўшчыны... Усё часцей нанова ўздымаецца тэма Вялікай Айчыннай вайны. Разуменне гэтай вайны, бадай, найдаўжэй заставалася дастаткова адназначным. Цяпер жа гучаць выказванні, што не ўсё так адназначна «гераічна» ў гісторыі партызанскага руху, у дзейнасці мясцовай адміністрацыі з ліку нацыянальна свядомых дзеячаў і інш. Ці можна прагназаваць далейшае развіццё «тэмы вайны» да радыкальнай, ці не палярнай змены ацэнак?***

— Мабыць, сапраўды не ўсе так адназначна. Асабліва што датычыць вайны. Найперш маральны яе бок, у параўнанні з новай вайной, афганскай. Ужо на першы погляд кідаюцца ў вочы дзівосныя аналогіі і антытэзы, дыялектычная зменлівасць ці адноснасць, здавалася б, абсалютна безадносных ісцін. Тое, што мы прызвычаіліся лічыць злом, рабілася дабром, і наадварот. Звыклыя для нас партызаны, ніколькі не губляючы сваёй традыцыйнае існасці, у чужой краіне ператварыліся ў загадкавых душманаў, а ненавісныя, да зубоў узброеныя карнікі — у «наших славных парней, честно исполняющих свой интернациональный долг». У гэтым сэнсе, мабыць, было б цікава сутыкнуць разам якога-небудзь старога бацьку, беларускага партызана, і яго маладога сына-«афганца» — цікавая, мабыць, атрымалася б размена... Зразумела, што ў мінулай вялікай вайне засталося шмат «белых плямаў», якія тояць розныя ацэнкі. Але ва ўмовах таталітарызму высвеціць усе іх не было магчымасці. І не толькі з прычыны жорсткай цэнзуры і празмерна абачлівай рэдактуры: таксама і ў сілу абмежаванасці нашага светапогляду. Менавіта той светапогляд абавязваў да пэўнай «кананізацыі» тэмы, пераступіць цераз якую не было дадзена нашым пакаленням. Пэўна, тое зробяць мастакі наступнага веку. Дай ім Бог таго, што не было дадзена нам.

***— Гісторыя паказвае, што ад пачатку (з часоў Рагнеды) продкі беларусаў былі асуджаны на выпрабаванні, можна сказаць, у тым наш кон. І сёння, здаецца, што наш народ ужо нічым нельга перамагчы — пасля тае спрэс крывавае гісторыі, пасля апошняй вайны, пасля Чарнобыля... Народ жыве. Традыцыйна лічыцца, што самы трывалы імунітэт на выжыванне — у яўрэйскага народа. Але па сутнасці беларусы ёсць тая нацыя, якая, жывучы на сваёй зямлі ў якасці пакутнікаў, знайшла сабе апірышча не на грунце і не ў вандраваннях-перасоўваннях, а — ва ўнутранай беларушчыне. МЫ ЗДОЛЕЛІ ЗАХАВАЦЬ БЕЛАРУСКАСЦЬ «САМУ ПА САБЕ». Усё часцей паўтараецца думка, што беларусы паступова ператвараюцца ў ЗВЫШНАЦЫЮ, якая можа пераўзысці астатнія па трываласці...***

— Во і ў вас пачулася тое, пра што я казаў: аптымізм фіналу, абавязковы спадзяванак у заключэнне... Не сумняваючыся ў вашым сцвярджэнні, я, тым не менш, не адчуваю і вялікай упэўненасці. Верагоднасць выжывання беларускай нацыі ў сучасных умовах вельмі праблематычная. З'явіўся некаторы шанец, але ўсё яшчэ даволі хліпкі: д'ябальскі баланс дабра і зла захоўваецца. Дэкларавалі суверэнітэт, але абваліўся згубны эканамічны крызіс, з'явілася легітымнасць дзяржаўнай улады, ды здарыўся Чарнобыль... Відавочна, што ўсе праблемы — і эканамічная, і культурная, і моўная — упіраюцца ў самую галоўную праблему — дзяржаўны суверэнітэт. БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСЬ — БУДЗЕ ЎСЁ. У ТЫМ ЛІКУ МОВА І КУЛЬТУРА. НЕ БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ — ХУТКА НЕ БУДЗЕ НІЧОГА.

Гісторыя, здаецца, ужо даволі нас у тым пераканала...

*1995 г.*

# Смактуноўскі

## Словы пра геніяльнага акцёра

Адам ГЛОБУС

### Жаданне

Вялікі акцёр, зорка кіно першай велічыні, геній... Усё гэта можна сказаць пра Інакенція Смактуноўскага і не памыліцца. Такім людзям, як ён, дадзена шмат не толькі прыродай, але і грамадствам. Можа, таму мяне найперш зацікавіла тое, чаго Інакенцію Смактуноўскаму не хапала. Якое патаемнае жаданне захоплівала душу выбітнага мастака? Адказ прадказальны... Смактуноўскаму не хапала звычайнай адзіноты. Ён шукаў зацішку. Думаў пра спакой. Ён марыў адасобіцца ад несупыннай мітусні. У ягонай штодзённасці зззяла зашмат святла, было зашмат стракатай публічнасці, зашмат пільнай увагі і чужых вачэй. Смактуноўскі цаніў самоту, называў яе жаданай і каштоўнай.

### Усмешка

Акцёр мусіць умець усміхацца. Усе мы павінны ўсміхацца: чым больш мы ўсміхаемся і радуемся, тым лепш жывём. Калі навокал шмат усмешак, мы пачуваемся больш камфортна, чым калі іх мала. У акцёраў мы можам навучыцца правільна ўсміхацца. Можа, не ва ўсіх, але ў такога, як Інакенцій Смактуноўскі, варта вучыцца ўсмешцы. Ягоную ўсмешку можна прыняць за ветлівы знак згоды. Такая сабе антыканфліктная і антыспрэчкавая ўсмешка. Яна ў яго ласкавая і выпраменьвае прыязнасць. З такой усмешкай лёгка ісці па жыцці. Ну добра, не лёгка, але ўсё ж значна лягчэй, чым без яе.

### Міф

Ёсць перакананне, што чалавек можа адчуваць набліжэнне ўласнай ці якой іншай смерці. Інакенцій Смактуноўскі, які ўдзельнічаў у кровапралітных баях з мностам ахвяр на Другой сусветнай вайне, абвяргае гэткае містычнае бачанне як сваёй, так і чужой трагічнай будучыні. Смактуноўскі апісвае ва ўспамінах, як ён сам і яшчэ больш за сотню байцоў, што былі побач з ім, зусім не адчувалі, што праз дзень большасці з іх давядзецца загінуць на чужой польскай зямлі ў сутычцы з немцамі. Пасля страшнага бою жывымі засталіся лічаныя байцы; і толькі Інакенцій Смактуноўскі дэталёва апісаў трагедыю і пераканаў мяне ў тым, што чалавек зусім не чуе набліжэння гвалтоўнай смерці. Не ведаю чаму, але гэтае абвяржэнне ўстойлівага міфа мяне парадавала сваёй шчырасцю і прастасцю. Чалавек мусіць спадзявацца і жыць напоўніцу да апошняга ўздыху, і не трэба яму лішні раз палохаць самога сябе блізкім сконам.

### Нервы

У аўтабіяграфічнай прозе Смактуноўскага досыць часта згадваюцца нервы. Яны напінаюцца, яны рвуцца, яны хварэюць і не даюць салдату вярнуцца ў нармальны стан з ураўнаважаным розумам. Для аўтара яны — нервы звышважныя, яны аўтапартрэтныя, нават у тыя моманты, калі гутарка вядзецца пра нейкага іншага вяра. Увесь Інакенцій Смактуноўскі складзены з агаленых і звышадчувальных нерваў. Такім ён быў на фронце, такім быў на тэатральнай сцэне і на здымачнай пляцоўцы. Да такой агаленасці ты баішся дакрануцца. Баішся выклікаць жудасны касталомны боль. Баішся, што цябе самога гэткі агалены нерв, як электрадрот, моцна ўдарыць токам, так моцна, што можа нават забіць.

### Самаацэнка

Выхаваны, вытанчаны, звыштактоўны Інакенцій Міхайлавіч Смактуноўскі казаў: «Вось мы з Козінцавым усю карціну, увесь «Гамлет», былі на вы... Мы павінны былі быць на ты — і тады б карціну гэтую мы не прасралі». Так пачуў і запісаў рэжысёр Сяргей Салаўёў. Думаю, што запіс гэты праўдзівы, бо далей Смактуноўскі патлумачыў, чаму менавіта «прасралі» свайго «Гамлета» ён і Рыгор Міхайлавіч Козінцаў: «Як вы не разумееце? З чым мы мелі справу? З якой наогул веліччу чалавецтва? І пачаў Рыгор Міхайлавіч памыляцца з таго, што ўзяў няправільны, пошлы пераклад... Так, у нас быў пераклад Пастэрнака. Але гэта пошлы пераклад... Пастэрнак добры, вядома, паэт, і ўсё ж ёсць жа геніяльны пераклад!.. К. Р. — Канстанцін Раманаў».

Самакрытычнасць Смактуноўскага мяне палохае. Вобраз Гамлета, створаны ім у кінакарціне Козінцава, ідэальны, шэдэўральны і геніяльны для большасці гледачоў. Але не для стваральніка, які ведае, як трэба было зрабіць яшчэ лепш. Праз тое веданне ён пакутуе ледзь не да вар'яцтва, у якім губляюцца і тактоўнасць, і выхаванасць, і вытанчанасць.

### Гамлет Дзетачкіна

У Смактуноўскага многа ўдалых роляў у кіно. Адна з найлепшых — страхавы агент Юрый Дзетачкін у фільме «Сцеражыся аўтамабіля». Сумленны злодзей Дзетачкін крадзе легкавікі ў прайдзісветаў, прадае іх цемрашалам, а здабытыя грошы перасылае ў дзіцячыя дамы. Такі сабе Робін Гуд, такі сабе партызан беларускі. Безумоўна, у гэтай ролі напоўніцу раскрылася прыродная беларускасць Смактуноўскага. Калі б у мяне спыталі пра найлепшы вобраз беларуса ў савецкім кіно, я назваў бы вобраз Детачкіна, створаны Інакенціем Смактуноўскім.

Ёсць у фільме яшчэ адзін выдатны матыў. У час, вольны ад начных крадзяжоў і ад дзённай працы страхавым агентам, наш сціплы грамадзянін Дзетачкін іграе ў самадзейным тэатры, які замахнуўся на «Вільяма нашага Шэкспіра». Смактуноўскі іграе Дзетачкіна, які іграе Гамлета. Ты глядзіш на Гамлета праз Дзетачкіна і праз Смактуноўскага — і герой Шэкспіра нашага Вільяма выглядае жывым і пераканаўчым, у нейкія імгненні ён нават лепшы за Гамлета, якога Смактуноўскі геніяльна стварыў у фільме «Гамлет».

### Вытанцоўванне

Зазірні ў далёка-далёкае мінулае — і ты пабачыш, што напачатку было не слова, а быў жэст і танец. Менавіта з танцаў і жэстаў вырасла чалавечае слова. У моманты вялікага ўзрушэння чалавеку можа не хапіць слоў — і ён увесь ператворыцца ў жэст і данясе іншаму сваё важнае пасланне. Падобна, што такім чынам і выбудоўваў сваю акцёрскую ігру Інакенцій Смактуноўскі. Ён іграў не толькі тварам, як большасць сучасных тэлепаяцаў. Ён іграў рукамі і хрыбетнікам, стопамі і шчыкалаткамі, лыткамі і спінай, вачыма і голасам, брывом і валаском. Для кожнай ролі ён разбіраў сваё цела на складнікі, для кожнага складніка прыдумваў жэст, а потым усе жэсты акуратна складаў у адзін вобраз. Смактуноўскі кожную ролю вытанцоўваў. Да танца ён дадаваў яшчэ і песню. Слухай — заслухаешся. Глядзі — заглядзішся. Запомніш і не забудзеш.

### «ГениЮш»

Здавалася б, калі геніяльны акцёр — беларус, ён мусіць працаваць на кінастудыі «Беларусьфільм». Ну добра, не працаваць, а знішча там у адной ці дзвюх карцінах. Пагатоў пад такога акцёра, як Смактуноўскі, варта пісаць сцэнарый і забяспечваць вялікае фінансаванне. Беларус Смактуноўскі не здымаецца на «Беларусьфільме». Чаму? На гэтай вечна партызанскай кінастудыі ўсё беларускае — сцэнары, акцёры, экранізацыі — з'яўляліся гады ў рады. Беларус прыходзіў на кінастудыю, здымаў адзін-два фільмы і сыходзіў, бо правінцыйна, бо другасна, бо малаперспектыўна.

Для мяне жыццё «Беларусьфільма» сфакусіравалася ў адным пытанні, якое неяк задаў мне рэжысёр Валерый Панамароў: «Володя, как считаешь, ГениЮш — хорошая претесса?». Ад гэтага «ГениЮш» мяне калатнула. Гэта была апошняя кропка ў маіх творчых



Фота Барыса Каўфмана

адносінах з «Беларусьфільмам». Таму можна лічыць: Інакенцію Смактуноўскаму пашанцавала, што ён не працаваў на кінастудыі, дзе здымаюцца пасрэдныя кінакарціны пра «гениЮшев», а не карціны з геніямі і пра геніяў.

### Бяспека

Сапраўднае прозвішча Інакенція Смактуноўскага — Смактуновіч. Акцёр падкрэсліваў, што Смактуновічы — беларусы па крыві. Яны апынуліся ў Тамбоўскай вобласці ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя. Па адной версіі, сям'ю выслалі пасля паўстання, што адбылося ў 1863 годзе. Па другой версіі, у 1861 годзе прадзед акцёра, які служыў у Белавежскай пушчы егерам, забіў зубра. Нехта данёс на егера-браканьера — і яго з усёй сям'ёй загналі ў Сібір. Версія з зубром мне падабаецца больш, бо яна казачная. За такімі версіямі паўстанцы хавалі сваю палітычную і рэвалюцыйную актыўнасць. Так, у маёй сям'і пасля раскулачвання і высылкі мужчын з Беларусі ў Архангельскую вобласць расказвалі гісторыю пра кантрабанду гарэлкі і віна праз беларуска-польскую мяжу. Быць кантрабандыстам, як і браканьерам, было менш пачэсна, але больш бяспечна. Смактуновічы выбралі бяспеку, што яшчэ раз падкрэслівае іх беларускасць.

### Славянін

У 1946 годзе ў турэмна-лагерным горадзе Нарыльск Смактуноўскі памяняў прозвішча, да гэтага ён пісаўся Смактуновічам. Яму прапаноўвалі ўзяць прозвішча Славянін, бо нацыянальнасць у пашпарце мелася звышславянская — беларус. Ад прозвішча Славянін беларус Інакенцій Міхайлавіч тактоўна адмовіўся і атрымаў пашпарт грамадзяніна Смактуноўскага.

### Паштоўкі

Усе мы нешта збіраем. Нехта калекцыянуе вясёлыя паказкі. У кагосьці дома стаіць скрыня з коркамі ад вінных бутэлек. Хтосьці можа сабе дазволіць вялікі гараж са старымі аўто... У дзяцінстве збіранне пачынаецца з марак і паштовак, з дробных цацак і значкоў.

Мой сваяк Анатоль збіраў альбомы па мастацтве і паштоўкі з тварамі кінаакцёраў. Паштоўкі з акцёрамі прадаваліся ў газетных шапіках. Каштавалі яны па шэсць-восем капеек. Каб парадаваць Анатоля, я купляў для яго паштоўкі з Высоцкім, Смактуноўскім, Міронавым... Некаторыя з паштовак у Анатоля захоўваліся ў двух ці нават трох асобніках. Другі асобнік ён пакідаў на абмен, а трэці ў моманты вялікай шчодрасці перадаваў мне. Так паціху-патроху на маёй кніжнай паліцы сабралася некалькі дзясяткаў картак з тварамі зорак тагачаснага кіно.

На адваротным баку карткі пералічваліся фільмы, у якіх зняўся акцёр. Я прыдумаў гульню ў працягі... Паштовачныя акцёры атрымлівалі ад мяне выдатныя ролі. Мне бачылася, як яны іграюць выбітных творцаў... Мой Высоцкі ператвараўся ў Франсуа Віёна і спяваў:

*Я — Франсуа, чему не рад.*
*Увы, ждёт смерть злодзея,*
*И сколько весит этот зад,*
*Узнает скоро шея.*

Міронаў, як мне падавалася, мог бы сыграць пісьменніка Іллю Ільфа, які старанна выпісвае вобраз вялікага камбінатара Астапа Бэндара.

Смактуноўскі мне ўяўляўся найлепшым з мастакоў — Леанарда да Вінчы. Мне цяжка было ўбачыць, як рухаецца сапраўдны Леанарда, але зусім лёгка прыдумлялася, як Смактуноўскі, пераапрануты ў найвялікшага з адраджэнцаў, няспешна ідзе праз асветленую ранішнім сонцам Фларэнцыю.

### Малкавіч

Ці ёсць у сучаснага акцёра найвышэйшая ступень прыжыццёвага прызнання? Пэўна, ёсць. Калі Джону Малкавічу прапаноўваюць у мастацкім фільме сыграць Джона Малкавіча, можна казаць, што акцёр дасягнуў абсалютнага прызнання. Той фільм з Малкавічам атрымаўся на выдатна, але з-за фантастычнага сюжэта Малкавіч у фільме ўсё ж больш акцёр, чым асоба.

Атрымаўшы падобную прапанову, акцёр Інакенцій Смактуноўскі сыграў у фільме «Масква не верыць слёзам» сябе маладога і малавядомага. У Смактуноўскага атрымалася так дасканала і пераканаўча сыграць самога сябе, што ён і на экране застаўся больш асобай, чым акцёрам. У выпадку са Смактуноўскім зоркі сышліся лепш, чым у выпадку з Малкавічам. Можа, таму фільм «Масква не верыць слёзам» і «Оскара» атрымаў, і народную любоў займеў, а фільмам «Быць Джонам Малкавічам» больш захапляліся кінакрытыкі, снобы і мастакоўская эліта, чым шараговыя гледачы.

### Фотакарткі

У адным з апошніх тэлеінтэрв'ю Інакенцій Смактуноўскі тлумачыў гледачам, чаму ў яго, байца, які прайшоў вялікую вайну, не захавалася фотаздымкаў з фронта. Смактуноўскі казаў, што ў тых, хто быў на перадавых пазіцыях, не было магчымасці фатаграфавацца. Каб сфатаграфавацца ў час Айчыннай вайны, трэба было знаходзіцца ў тылах, а не на франтах.

За мужнасць Інакенцій Смактуноўскі атрымаў «Медаль за адвагу» — адну з самых каштоўных узнагарод для простага байца.

Смактуноўскі — вялікі акцёр, і таму ў нас ёсць мірныя кінакадраў і фотакадраў з ім, але няма кадраў Інакенція Смактуновіча на фронце. І гэта для мяне, чалавека, які любіць творчасць Інакенція Міхайлавіча Смактуноўскага і паважае яго як сумленнага чалавека, важна.

### Скрыпка

Кінарэжысёр Козінцаў, які здымаў «Гамлета» са Смактуноўскім у галоўнай ролі, так выказаўся пра акцёра: «Вядома, балалайка — цудоўны інструмент. Бывоюць дарагія, выдатна зробленыя балалайкі. Смактуноўскі —скрыпка, інструмент надзвычайнай тонкасці і чысціні гукаў».

На першы погляд здаецца, што Козінцаў пахваліў Інакенція Смактуноўскага, калі параўнаў яго з арыстакратычнай скрыпкай, а не з народнай балалайкай. На мой розум, Козінцаў прынізіў вялікага акцёра, які для рэжысёра — інструмент, а не суаўтар і не чалавек. Я — рэжысёр, я — вялікі майстар, я — Козінцаў... Так, ты — Козінцаў, але ты не Гамлет, не Смактуноўскі, які можа пабыць Гамлетам, і ты не Шэкспір, ты — дырэктар на вытворчасці кінапрадукцыі і не больш за тое, а таму і бачыш у людзях інструменты: скрыпкі, бубны і балалайкі.

### Метамарфозы

Розныя паэты любяць параўноўваць белыя аблокі з анёламі. Сапраўды, у лёгкай і светлай пухнатасці воблака можна пабачыць анёла, а ў змрочнай цемрадзі хмары — цмока, які ляціць над зямлёю, несучы дождж, а часам і навальніцу. Ператварэнне анёла ў цмока — цікавая з'ява, пагадзіся. Было неба светлым, а стала цёмным. Так і з чалавекам адбываецца. Меў ён добры анёльскі настрой, нешта пайшло не так — і настрой пагоршыўся. І замест добрага стаў чалавек злым, як той цмок: і пашчу ён ашчэрыў, і з рота ў яго агонь ляціць, а з вушэй дым ідзе.

У жыцці на падобныя метамарфозы глядзець цяжка, а вось у тэатры і ў кіно такія пераўтварэнні зачароўваюць і захапляюць. Асабліва добра яны глядзяцца ў выкананні цудоўных акцёраў накшталт Інакенція Смактуноўскага, які з інфантыльнага анёла з дзіцячым тварам можа з лёгкасцю ператварыцца ў нязломнага ваяра, што ў сумленным двубоі заб'е ворага. Чаму я згадаў тут менавіта Смактуноўскага? Ты ўслухайся ў ягонае прозвішча, ты прагавары яго нелькі разоў — і ў дзіцячым «смактаць» ты пачуеш не толькі «смокча», ты пачуеш «цмок».

# Трэцяе вока



Ганна ШАКЕЛЬ

***

*Бацюхна каштан,
Свечкі кветак сваіх пастаў.
Не крану ўбрання твайго ліста,
Абы прычасця пакаштаваць даў.*

*На неба ляці, бацян,
Прынясі хлеба, ляці, бацян,
Чорнага і белага, бацян,
Толькі не гарэлага.*

*Чорнага і белага,
Як абпаленыя крылы твае,
Бо апошнім ты быў, бацян,
Хто з вогненнага гнязда злятаў.*

*На белай зямлі толькі вугаль — хлеб.
Каштан кашляе,
Зачынены вінны склеп.
Хай праз сорак дзён
Корміць цябе язмін.
— Гарэлае цела Бога.
— Амін.*

***

*сны — гэта кнігі
якія пішуць нам
нашы памерлыя*

*таму і варочаюцца
ўначы
пад коўдрай
павекаў
вочы*

*бо чытаюць*

***

*у хвойным лесе стаіць дом
там яшчэ нікога няма
там ёсць шчасце
шчасце жыве
пакуль яго не напаткаюць*

*там ёсць гліняны посуд
ходнічкі, сатканыя з парэзаных
кашуль нашых дзядоў
і сырыя дровы
прапаліць печку
але печкі няма
шчасцю цёпла*

*там ёсць старая шафа
з лістамі і фотаздымкамі
ў размаляваных шуфлядах
якую выратуюць з-пад праваленага даху
калі там ужо нікога не будзе*

*у хвойным лесе стаіць дом
твае вочы ўсміхаюцца
яловымі лапкамі*

***

*Твой твар у маёй памяці засветлены,
як на нашых агульных фотаздымках.*

*Што душу табе грэла?
Нашу старэйшы за сябе швэдар.
Земляны пах і Lancome.
Мае духі — мае духі.*

*Твой твар засветлены,
нібы на ім Бог паказвае,
якое белае шчасце ў Яго царстве.*

*Калі Бог праявіць сваё царства
на маіх фотаздымках,
мой твар будзе пахнуць зямлёй.*

*Дух мой,
хадзі куццю есці.*

**шлях 360**

*я ёсць
шлях
і праўда
і жыццё*

*ніхто не прыходзіць
да Бога
акрамя як
праз сябе*

***

*паэзія — котка:
ліжа ранкі
шурпата*

***

*арэх мігдалу
давай разам слухаць знутры
рэха мірганняў
так да цябе падобных вачэй
як родных дзяцей іх вучы
паслясмак бачыць
замест рудых зморшчынаў
і звілінаў закарэлых*

***

*Разаб'е бэз вокны
кулаком гронкі,
прылепіцца да шкла
усмешлівымі шчупальцамі.
Будуць бэзавай
камерай мае пакоі:*

*душыся
вясной,
здыхай,
альбо пакахай
і дыхай.*

*Над брукаванкай звонкай
няўжо ты забыўся, бэз,
на вужоў
гадаў-гаспадароў,
карона якіх сонцам
крыжоў нашых стала?
Ці ты забыўся, бэз,
на песні
Забэйды-Суміцкага,
што за вушамі
прыёмніка
суніцамі
трашчалі?
Бэз!*

*Шапчы шыбам вершы
чацвераву сными ратамі,
калышы шыбы
пяшчотнай калыханкай.
Ліловымі вочкамі
заплюшчы вокны мае,
і буду спаць
пачышчанай рыбай,
бы перламутравую луску
прадаўшы.*

**п'ета**

*на руках
жанчыны
з дрэва
плод
са смакам
хлеба*

**магдалена**

*я вуха,
я слімак мазгоў,
схаваны ў ракавіне.
я ракавіна,
што паглынае думак тваіх пясок.*

*я самкнутыя вусны,
твой пясок абрастае
маёй перламутравай слінай.*

*я пярліна,
ты ў руках не трымаў нічога,
цяжэйшага за мяне.
якія камяні,
якія жанчыны,
якое ўкаменаванне жанчын?*

*я сухое вока,
што бачыць,
як слёзы іншых жанчын
плёскаюцца ля тваіх ног
і як ногі табе выціраюць
іншых жанчын валасы.
я валасы, скручаныя ў спіраль,
я іх зыбкі вір.*

*я зыбкі пясок думак тваіх —
не пакінуць на ім ні следу.
я цень,
які слімаком за табой паўзе.*

*я прыпаўзла
намасціць цябе
сваёй слізю,
а пясок праху твайго
узняўся бурай.*

**Вежа**

*будую вежу лапамі мядзведжымі
манашкай у сутарэннях яе кашляць
ці варажбіткаю з калодамі разбітымі
наперад ведаць
ці стану я выбітнаю
мовы языкамі ў роце б'юцца
людцы! сцеражыцеся неразумення
наверсе вежы
дзе вецер святлом вее
узважу ўсе свае дасягненні
з зязюліным пер'ем
кувай
кволая
аж да поўначы
куй
кумушка
пакуль горача*

***

*колькі казак складваюць
у шкатулкі
дзіцячых, дзявочых,
а ты, мой хлопчык,
трымай у шкатулцы зброю —
тваё самае дарагое
у паляванні на сябе самога.
шкатулку насі дзень і ноч
з сабою:
схавай ад вачэй воўчых
казу на кажух,
у казе — птушку…
пірат, але не любіш папугаў,
з драўлянага — не ногі —
рогі над куфлем піва
у кожным салуне акругі
як сімвал тваёй над сабой
перамогі.
як прынцу,
табе больш даспадобы лісіцы.
у птушцы — яйка,
у ім — іголка:
ашыць раны,
якія ты сабе сам наторкаў.
засынай, мой хлопчык,
заплюшчвай вочкі.
я — шкатулка,
я — твая казка.*

***

*жыць навобмацак
адабралі пачуцці зрок
далей трэба рухацца дотыкам
расплюшчыць бы трэцяе вока
але я ўсёвідушчаму
толькі завочна знаёмая
жыць навобмацак
нават калі да вуснаў
анучу падносяць у воцаце
нават калі я
анічыя
навобмацак
па Брайлю чытаць людзей
цісну рукі дзвярам
кубкі цёплыя цалаваць
абдымаць непакорлівы вецер
жыць навобмацак
каб заплюшчыўшы вочы
працей прайсці скрозь
цемру вакол
унутр у цемру сваю
каб крануцца чагось
і знаць што
яно існуе
і я існую
каб спаткаўшы цябе
адчуць найперш
твайго сэрца такт
ці
жыць навобмацак
проста так*



Фота soglas-proekt.ru



Сяргей ВАГАНАЎ

# Аднойчы ў СССР

## З кнігі «Праз межы часу»

**Слова з нагоды. (Прадмова да кнігі)**

***Сёння, як я пераканаўся, пісаць прадмовы, асабліва тым, з кім звязана паўстагоддзя жыцця, ужо не ўмею, няздольны. Яшчэ ўчора, здаецца, умеў, а сёння ўжо не. Ці не таму, што сёння мяне больш займае не само, як казалі, прыгожае пісьменства, а тое, адкуль у яго ногі ды рукі растуць.***

***Не спадзяюся на нейкі пэўны адказ. Бо на кожнай думцы, на кожным кроку губляю клёпкі і спатыкаюся аб іх, як, пэўна, сам спатыкальны наш абсурдна-фантасмагарычны час…***

***Колісь была літаратура: старажытная, сярэднявечная, рэалістычная і нават сацыялістычна-рэалістычная — так, прывязаная, цалкам прыпнутая да патрэб свайго часу. Але і да чалавека ў тым часе, да яго планетарнай існасці і сутнасці.***

***Творца яшчэ верыў і спадзяваўся, бачыў святло ў канцы тунэля, бачыў сэнс у сваім існаванні. Святло і сэнс, якія сёння ўжо пахаваны ў нашых раскіданых па ўсёй краіне кладах пад крыжамі і без. І таму мы маем, што маем. Замест культуры — культ бясконцых садомападобных шоу, сексу, забойстваў, гвалту… Разліванае мора чалавечай крыві… Усё асвечанае вякамі па нейкім д'ябальскім загадзе пайшло пад нож, сякеру, ядзерную навалу, ужо пачало смярдзець, пляваць у вочы космасу, сусвету. І на чым толькі душа трымаецца?! Але ўсё ж трымаецца, што найбольш дзіўна. Як трава, прабіваецца скрозь асфальт і бетон.***

***Якраз прыкладам гэтаму можа служыць і кніга Сяргея Ваганава. Ён пачаў публічную літаратурна-мастацкую творчасць, асабліва ў паэзіі і эсэістыцы, а другой палове жыцця. Позна? Але што лічыць нашым беларускім рана ці позна? Калі танчаць уваччу літаркі, калі рэжацца словам горла, калі іскра божая не падманная, як ні адбівайся, рана ці позна, ты прыгавораны ўсё ж здацца. Здацца таму, што ў табе і над табой. На маю думку, мы ўвогуле запозненая былыя людзі з непраходнай жарсцю нязбдзейсненай творчасці, з нашай адвечнай беларускай бядой — двухмоўем, так званым білінгвізмам, з нашым сумам страчанай матчынай мовы.***

***Тое ж можна сказаць і пра мастацкія творы лепшых нашых творцаў, што захавалі сябе ў культава-людажэрным стагоддзі. Ён, гэты сум, быў уласцівы і Сяргею Ваганаву, нават тады, калі першыя вершы на рускай мове былі абазваны перайманьнымі ад Пастарнака, Мандэльштама… — і яшчэ даў бы Бог кожнаму каго. Але за ім ужо стаяла нашчадная біяграфія вялікай беларускаяўрэйскай сям'і, якая прайшла праз усе ламоты ХХ стагоддзя. Бунтоўнасць і замілаванне словам нашчадныя ў Сяргея Ваганава, прыроджана-каранёвыя. Не ведаю, як доўга ён верыў прысуду аб другаснасці яго паэзіі. Але… Але ехаў з жонкай і сябрамі ў лес па грыбы ці ягады, браў з сабой пішмашынку і на пяньку выдрукоўваў: «Сосновый лес берёзами просвечен…».***

***Я не буду спыняцца на нечым канкрэтным з чарговай кніжкі Ваганава, бо не хочу быць пераказальнікам яго твора. А яна, нягледзячы на разнастайнасць жанраў — вершы, мініяцюры, нарысы, эсэ, — менавіта адзін твор, які ўвабраў у сябе шматгадовы журналісцкі і жыццёвы досвед аўтара…***

**Віктар КАЗЬКО**

***

Штогод 8 снежня надыходзяць чарговыя ўгодкі Белавежскіх дамоваў. То бок канчатковага, як лічыцца, распаду СССР. Але пытанне — ці канчатковага? — застаецца дасюль. Сёння асаблівую вастрыню надае яму Украіна.

Не трэба вялікага напружвання інтэлекту, каб зразумець, што ўкраінскія падзеі адбываюцца ў рэчышчы распаду савецкай імперыі. І таму выходзяць далёка не толькі за геаграфічныя межы Украіны, але і за межы таго часу, калі нібыта канчаткова сканаў СССР.

На жаль, асэнсаванне распаду СССР, нават грунтоўнае, так і не пазбавілася прымітыўных эмоцый — ці то ўхвалення, ці то шкадавання, ці то наўпрост агрэсіўнага абвінавачвання трох «разбуральнікаў». Так ці інакш, у масавай свядомасці і, адпаведна, у афіцыйных СМІ, а мо і наадварот, прычыны і наступствы «найвялікшай», па Пуціну, «геапалітычнай катастрофы ХХ стагоддзя» зводзяцца да высновы, што «не ўсё было дрэнна ў Савецкім Саюзе». І да бясконцага суму.

Моладзь увогуле мала што ведае пра тое жыццё.

З якіх палітычных прырытэтаў узнік пуцінскі тэзіс пра катастрофу, добра вядома: імперская палітыка, як ні фарбуй яе, патрабуе абгрунтавання.

Насамрэч катастрафічным было само існаванне СССР.

Доказы гэтай катастрафічнасці незлічоныя. Да ўсіх вядомых накшталт ГУЛАГу, Галадамору, найкрывавейшай у гісторыі чалавецтва вайны, да якой СССР прыклаў і свае намаганні, крывадушнай ідэалогіі і пабудаванай на касцях эканомікі з яе разбураючым мараль дэфіцытам усяго дадам толькі тое, што катастрафічнасць малазаўважна месціласа па завуголлях псіхікі ці не кожнага чалавека.

Як землятрусу ці іншым прыродным катастрофам папярэднічаюць незвычайныя, малазразумелыя паводзіны розных жывых істот, так і ў чалавечым асяроддзі, у чалавечых паводзінах прадчуваецца наспяваючая катастрофа. Ніхто не ведае, калі яна грымне. Але грымне непазбежна.

Яно так: глабальныя тэктанічныя зрухі паступова выспяваюць на так званым мікраўзроўні. Найперш у адносінах паміж людзьмі. То бок маюць выразны маральны вытлок.

З гэтага гледзішча прапаную чытачам, асабліва маладым, гісторыю, што адбылася пад час існавання СССР. І заадно самім вырашыць, ці сапраўды ён канчаткова сканаў. На мікраўзроўні…

### Пятае раненне

Здарылася гэта ў 1984 годзе, у сонечны вераснёўскі дзень, калі ў Чэрвень прывезлі свежую рыбу. Падзея не тое каб вельмі значная, але і ў яе ўтварыўся свой маштаб: навіна хутка абляцела гарадок, і не паспела яшчэ Марыя, прадаўшчыца крамы мясцовага леспрамгаса, прыняць тавар, у дзвары выцягнулася ў ланцуг вялікая, з некалькіх дзясяткаў чалавек, чарга.

Гандаль ужо разгарнуўся на ўсю моц, калі ў дзвары з'явіўся грузны мужчына ў мехаватым шэрым гарнітуры і павольна рушыў уздоўж чаргі да спехам збудаванага прылаўка. Дыханне з цяжкім свістам вырывалася з ягоных грудзей, ён час ад часу спыняўся, падносячы да рота аптэчны пузырок. І раптам захлынуўся кашлем, сутаргава затрос галавой: гэта ж трэба, хацц і закрывае трахею марлевай павязкай, глынуў усё ж пылу…

Ён ужо пашкадаваў, што рушыў у такі цяжкі для сябе шлях. Каб не падвёз на машыне сусед, наўрад ці адважыўся б. Ды вось захацелася зрабіць прыемнае матулі — куды ёй на дзясятым дзясятку самой па крамах бадзяцца. Што праўда, нічога ёй не сказаў, бо не пусціла б. Дарэмна ўсё ж адмовілася яна ў Мінск перабрацца, куды меней было б праблем. Унь, дзяўчынкі з гастранома проста ў хату прадукты носяць, дактары без выкліку прыязджаюць, лецішча за горадам, на свежым паветры — сам урад распарадзіўся — бясплатна збудавана… А які чулы чалавек Станіслаў Антонавіч Пілатовіч! І не адмаўлялася быццам міністэрства сацыяльнага забеспячэння «Запарожац» выдзеліць, ды не здолела, інструкцыя забараняла, бо дачка, што мусіла кіраваць, паасобку жыве. Але нічога, дапамог намеснік старшыні Саўміна, так і напісаў міністру: «Улічваючы асаблівыя заслугі перад Радзімай і атрыманыя 4 цяжкія раненні, вырашыць пытанне станоўча». Значыць, і машына свая вось-вось з'явіцца, лягчэй будзе матулю наведваць. Хаця ўсё ж побач з роднымі ёй больш надзейна было б. Дык не, адмовілася: ад магіл бацькі і малодшага сына, гаворыць, нікуды не з'еду…

…Мужчына адкашляўся і, цягнучы нагу — зноў заныў засеўшы ў ёй асколак, ды і дыхаць пасля прыступу, як заўсёды, цяжэй, — прадоўжыў свой шлях яшчэ колькі метраў.

За прылаўкам панавала звычайная гандлёвая мітусня: бразгалі шалі, плюхалася ў авоські рыба. Марыя ледзь паспявала паварочвацца, званжаючы на чаргу, што нястрымна расла, і час, які застаўся да закрыцця крамы. Ад запіскі, аднак, не адмахнулася, прачытала «я інвалід першай групы, прашу…», хутка ўзважыла некалькі рыбін, не звяртаючы ўвагі на замяшанне, што ўзнікла ў чарзе. Між тым яно нарастала. Пачулася лаянка, мужчына затросся ўсім целам, замахаў рукамі, твар пабарвавеў, на ім адлюстраваліся крыўда і неразуменне. Мільгацеў зацiснуты ў руцэ пузырок, другая ніяк не пападала ў кішэню, дзе хавалася пасведчанне інваліда, з горла вырываўся свісцячы хрып… О, каб яно ў яго было, горла, каб яно магло дапамагчы яму вымавіць хаця б адно патрэбнае слова, патлумачыць, засароміць жанчын, што расшумеліся ажно на ўвесь двор: «…не пушчайце яго… хай праз пяць чалавек становіцца… ведаем мы гэтых інвалідаў…». Хаця б адну засароміць, тую, што, не выбіраючы выразаў, напірала моцным плячом… Шукаючы заступніцтва, ён паглядзеў на прадаўшчыцу, тая моўчкі працягнула яму праз галовы кашолку з рыбай, ён узяў яе і зноў пайшоў уздоўж чаргі, спяшаючыся, як на тое быў здольны, пакінуць двор, забыцца на ўсё, што адбылося, не думаць, што ж сталася з гэтымі людзьмі. Душыла крыўда, і ён не заўважыў, хто з чаргі тузануў яго за рукаў. Тканіна затрашчала, ён спыніўся ў непаразуменні і паспеў убачыць, як ад скрыняў, што былі складзены наводдаль, кінулася да яго чыясьці постаць. І ў наступны момант цяжкі ўдар абрушыўся на твар…

Чарга ахнула, нібыта толькі зараз убачыла ў чалавеку, што ляжаў на зямлі, абсалютную бездапаможнасць. Нехта выгукнуў «За што?!», нехта кінуўся дапамагаць яму падняцца на ногі, гэта было цяжка, таму што цяжкі быў ён сам, а ногі, што былі перабіты ў балотах пад Ленінградам, а потым з невырагодным мастацтвам пасшываны ў тылавых шпіталях, так, што ён здолеў вярнуцца на фронт, адмаўляліся слухацца. З рота струменілася кроў, а ў галаве нарастаў бясконцы гуд, быццам ізноў узарвалася т а я міна, ударыла гарачай хваляй, сыпанула мёрзлымі камякамі, паласнула асколкам…

Але тады, у 43-м, ён падняўся.

У мяне захаваўся ўрывак з баявой характарыстыкі капітана Паўловіча Анатоля Рыгоравіча. Дасюль памятаю акуратна пападклейваную на згібах, махорачнага колеру паперку, паразмываны часам подпіс — падпалкоўнік Падлесны, 13 лютага 1943 года, дзейнае войска: «…Участвуя в боевых действиях по прорыву блокады города Ленинграда, тов. Павлович вёл себя активно, мужественно. Батальону, которым он командовал, было поручено штурмом овладеть ст. Подгорное и этим самым отрезать путь отхода немцев из г. Шлиссельбурга на Мгу. Выполняя задание, батальон оказался в тяжёлых условиях: противник засел на двух высотах, фланкирующим огнем из пулемётов и сильным арт. и мин. огнем прижал батальон к земле. Тогда тов. Павлович, рискуя жизнью, личным примером поднял батальон в атаку, в рукопашном бою овладел высотами, преследуя немцев, ворвался с батальоном на ст. Подгорное, занял ее и взял трофеи: паровозов —2, вагонов — 34, склад боеприпасов — 1, пулеметов — 7, ПТО — 1. В этом бою немцы потеряли убитыми около 230 солдат и офицеров… Убыл из части по тяжёлому ранению и общей контузии».

Гэта было апошняе, чацвёртае раненне камбата.

Аказалася — не апошняе.

…Ударыў Крыцкі, трактарыст райсельгасхіміі, 27 гадоў. Ударыў і адразу знік з двара.

Знайшлі яго хутка, на наступны дзень. Разам з Паўловічам ён ехаў у адной міліцэйскай машыне, прасіў прабачыць, паўтараючы, што ўдарыў выпадкова, бо не бачыў, каго б'е. Зараз жа, калі ўбачыў, ім авалодаў страх, у нейкім завуголлі свядомасці з'явілася і не сыходзіла думка, што ўдар мог стацца смяротным…

Паўловіч зноў замахаў рукамі, у машыне было цесна, участковы міліцыянер супакойваў яго, сцвярджаў, што хуліган абавязкова будзе пакараны. Тое самае паўтарыў Апанасевіч, следчы з раённай міліцыі. Паўловіч супакойваўся, паважліва гледзячы на зоркі старшага лейтэнанта…

Заканчэнне на стар. 7 »

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

# Аднойчы ў СССР

## З кнігі «Праз межы часу»

І сапраўды, справа была заведзена хутка, праз тыдзень. І адразу пацягнуўся ланцуг сведак — гарадок невялікі, чарга лёгка пазнавала сябе. І яшчэ праз тыдзень Апанасевіч выклікаў Паўловіча на допыт «у якасці пацярпелага». Верагодна, мог і сам да яго прыехаць, ведаў жа, як цяжка інваліду дабрацца да Чэрвеня. Усё ж ён дабраўся, на пытанні адказваў запіскамі, потым, прачытаўшы паказанні сведак, расхваляваўся — яны былі насычаны падрабязнасцямі, якіх і ў паміне не існавала. На вочы трапіла даведка з медвыцвярэзніка, з якой вынікала, што Крыцкі часты яго наведвальнік. І побач — характарыстыка з месца працы: выканаўчы, працалюбівы, перавыконвае нормы... Паўловіч задыхнуўся ад абурэння. Не трэба, зноў супакоіў Апанасевіч, не хвалюйцеся, я сам дам ім дыхту, вяртайцеся ў Мінск дахаты, чакайце запрашэння ў суд...

Да суда справа не дайшла. У сярэдзіне кастрычніка Апанасевіч атрымаў дазвол працягнуць тэрмін дазнання яшчэ на месяц. А яшчэ праз два тыдні з-пад пяра следчага выйшла пастанова — справу спыніць.

Вось яна, тая пастанова: «...стаў распіхваць чаргу. Калі Паўловічу зрабілі заўвагу, то ён хапаў гіры са стала, адкуль адпускалася рыба, размахваў гірамі. Крыцкі, які знаходзіўся ў чарзе, зрабіў Паўловічу заўвагу з нагоды яго хуліганскіх дзеянняў, але Паўловіч на заўвагу не зрэагаваў, а схапіў гіру, штурхнуў Крыцкага ў грудзі і намагаўся ўдарыць апошняга. Крыцкі, абараняючыся ад Паўловіча, нанёс яму ўдар па твары, і ад удару Паўловіч упаў... Прымаючы да ўвагі, што ў дзеяннях Крыцкага адсутнічае склад злачынства, што прадугледжана артыкулам 201 частка 2 КК БССР, ён спыняў злачынныя дзеянні Паўловіча...».

Спрэс хлусня — ад «заўваг», што насамрэч былі грубай лаянкай, да «гіры», у якуюператварыўся аптэчны пузырок; ад «распіхвання чаргі» да «намагання ўдарыць Крыцкага», катарага нават у чарзе не было...

Пазней Апанасевіч сцвярджаў, што яго ўвялі ў зман сведкі. Але сведкі не гаварылі нават і паловы таго, што з такім мастацтвам перакуліў з ног на галаву старшы лейтэнант, зрабіўшы з пацярпелага хулігана, а з хулігана — ледзь не героя, абаронцу грамадскага парадку.

Нічога гэтага Паўловіч не ведаў. Стаміўшыся чакаць суда і адказу на пяць сваіх лістоў да начальніка РАУС падпалкоўніка Зіміна, ён не вытрымаў, паехаў да яго. Той нават не хаваў вочы, калі ўпэўніваў Паўловіча, што не атрымліваў тых лістоў, што адказ хутка прыйдзе. І маўчаў, хаця ведаў, што вось ужо месяц як справа закрытая. Адказ прыйшоў ажно 9 снежня: «віна гр-на Крыцкага не пацвердзілася...».




Зразумеўшы, што Зімін яму не абаронца, Паўловіч прысунуў да сябе старэнькі «Рэйнметал» — адзіны свой ваенны трафей. Да таго моманту друкарка служыла яму толькі дзеля таго, каб дзякаваць усім, хто быў да яго ўважлівы. Іншым спосабам, пісьмовым, ён рабіць гэта не ўмеў — любая літара з'яўлялася з-пад рукі падобнай на іерогліф. Зараз жа з адзінага, па сутнасці, сродку сувязі са знешнім светам, катораму, ён быў упэўнены, патрэбна ягоная ўдзячнасць за ўвагу, дабрыню і спагадлівасць, друкарка ператварылася ў сродак абароны.

Дзіўна, як старэнькі «Рэйнметал» вытрымліваў незлічоную колькасць лістоў і тэлефонных размоў — Паўловіч друкаваў тэксты, которыя ад яго імя зачытвалі па тэлефоне жонка, дачка, суседзі. Усё гэта чыталі і слухалі ў кабінетах МУС і пракуратуры рэспублікі, абласной міліцыі і пракуратуры... Але спярша ён аддрукаваў ліст Апанасевічу: «...дзе ваша сумленне, старшы лейтэнант?!».

Яшчэ ці не на два месяцы раскручваўся здзек — справа то ўзнаўлялася, то зноў закрывалася, то ператваралася з крымінальнай у адміністрацыйную... Не так, дык гэтак Апанасевіч намагаўся выратаваць Крыцкага ад законнага пакарання. Але ўрэшце пад ціскам вышэйшай пракуратуры прыцягнуў хулігана да крымінальнай адказнасці...

Калі я разбіраўся ў гэтай гісторыі, самым складаным было зразумець, чым кіраваліся следчы Апанасевіч і ягоны начальнік Зімін, на што разлічвалі, у адкрытую хлусячы Паўловічу і дзяржаве, увасобленай у «органы». Магчыма, справа Крыцкага падалася ім з ліку тых, каторыя было лёгка закрыць, каб не псаваць агульную карціну злачыннасці ў раёне — не стане ж пацярпелы з-за разбітай губы і выбітага зуба, лёгкіх, так бы мовіць, цялесных пашкоджанняў, уцягвацца ў доўгую, цяжкую для сябе каніцель. Але гэта зразумелае, на паверхні, тлумачэнне. Іншы, прыхаваны матыў — небеспадставыны разлік на тое, што дзяржава зразумее, пагодзіцца, падтрымае, што дзяржаўная машына, прынцыпова скіраваная супраць асобы, спрацуе без тармазоў. Паўловіч, па сутнасці, змагаўся не з Апанасевічам, а з дзяржавай, з хлуснёй, без якой яна не здольная была існаваць.

...Са змешаным пачуццём сораму, горычы і душэўнага хвалявання ехаў я ў Чэрвень на суд. Як жа гэта блізка — шэсцьдзясят кіламетраў па асфальце! Сыпалася на лабавое шкло шэрань з бяроз, глядзела на захад палявая гармата з пастамента на скрыжаванні дарог... Я ўспомніў аповед матулі, як 24 чэрвеня 1941 года яна, цяжарная мной, дабралася пешшу да Чэрвеня, да плошчы, дзе ў адзіны працуючы магазін ужо цягнулася вялізная чарга па хлеб, апошні, мірнай выпечкі, хлеб. Як адхлынула чарга, адхіснулася, прапусціла ўперад бежанцаў, і сястру маю, і маці, і мяне, значыць — бярыце, якія грошы, хапіла б яго вам на ўвесь шлях у невядомасць... Не, немагчыма забыцца на чэрвеньскі хлеб 1941 года...

Ён прыехаў на суд у ордэнах і медалях, суддзя дазволіў яму сядзець, але ён уставаў, побач, прытрымліваючы яго, уставала, каб за яго адказаць на пытанні, жонка Кацярына Дзмітрыеўна, Каця, медсястра, сястрычка, ён удзячна сціскаў яе руку, як тады, у 43-м, у шпіталі, калі яна, схіліўшыся, працягнула сваю. На ўсё жыццё.

Адзін за адным праходзілі перад судом сведкі. Паўстала Людміла Р., выхавацельніца з дзіцячага садка, год нараджэння 1945-ы. Без асаблівага жадання распісалася ў знак таго, што будзе гаварыць толькі праўду. «Паўтарыце, сведка, словы, якія вы гаварылі пацярпеламу». Маўчанне. «Вы не можаце?» — «А што, у яго ёсць права, а ў мяне няма?!» — сіплаваты голас сарваўся на віск. Выклікалі яе дачку Таццяну, навучэнку ПТВ — моднае паліто, імпартныя боты. «Няўжо вы не бачылі, што перад вамі інвалід першай групы?» — «А хаця і дзясятай, няхай не лезе без чаргі!» — «Вы, — не вытрымаў суддзя, — вы... камсамолка...».

Суд дапытваў іх, высвятляў падрабязнасці, яны блыталіся, хлусілі, хлусня выпірала адразу ж, а я ўсё чакаў, калі ж хаця каго з іх кальне сорам, калі ж нарэшце загалосіць сумленне — ды што гэта мы, людзі добрыя, утварылі і працягваем тварыць!

У характарыстыцы злачынства, у прыватных вызначэннях на адрас арганізацый, дзе працавалі ці вучыліся сведкі, суд пазначыў: «праявілі яўную непавагу да грамадства». А хто ж яны, як не грамадства, выхаванае крывадушнасцю дзяржаўнай ідэалогіі, створаннем вялізнай, на ўвесь СССР, чаргі? Яны сапраўды лічылі, што, заняўшы кругавую абарону вакол прылаўка, яны дзейнічаюць у імя справядлівых, камуністычных прынцыпаў размеркавання.

«Вы... — чырванеў тварам суддзя, — камсамолка... Ён крывёю заслужыў сабе гэтае права...»

Я паглядзеў на Паўловіча. Ён ліхаманкава шукаў руку жонкі, імкнуўся ўстаць, нешта зноў булькацела ў горле... Што ён хацеў сказаць? Што некалькі рыбін не каштуюць і кроплі ягонай крыві? Жонка супакойвала, гладзіла па спіне... Ён прытуліўся да яе, але бачна было, як перарывіста ўздрыгваюць плечы.

...Увесь дзень 27 студзеня Паўловіч прасядзеў ля тэлевізара — адзначалася чарговая гадавіна поўнага вызвалення Ленінграда ад блакады. Сышло, адсунулася ўсё, што здарылася з ім у Чэрвені, ён ізноў быў там, у заснежаных балотах, зноў быў камбатам, што ўстаў пад агнём...

А ўвечары ў кватэры прагучаў званок. Ён адчыніў дзверы, убачыў на парозе Анатоля Яўрэінава, начальніка цэха з завода «Беллічтэхніка», з ім яшчэ некалькі чалавек, кагосьці ён пазнаў адразу, яны не аднойчы наведвалі яго, чысцілі, рэгулявалі ягоны старэнькі «Рэйнметал». Зараз жа машынка не вытрымала апошняга змагання Паўловіча за справядлівасць. Яму дапамаглі дабрацца да завода, майстра, агледзеўшы яе, папрасіў пачакаць і хутка вярнуўся з Яўрэінавым: «Мо падкажаш, што з ёй рабіць?». Насамрэч рабіць з ёй не было ўжо чаго — запчастак з таго свету завод яшчэ не атрымліваў. Але Анатоль ужо глядзеў не на машынку, ён глядзеў на Паўловіча: «Пакіньце, што-небудзь прыдумаем...».

І вось цяпер яны стаялі на парозе, пераступалі з нагі на нагу, працягвалі букет чырвоных гваздзік... Ён замітусіўся, прапускаючы іх у пакой, яны сумеліся, пераглянуліся, і Яўрэінаў, падышоўшы да стала, паставіў на яго нейкі чамадан, адкінуў вечка. «Вось, Анатоль Рыгоравіч, гэта вам, ад хлапцоў, яны адмысловы суботнік адпрацавалі...»

Гэта была новенькая, з іголачкі, «Эрыка». Паўловіч, нічога не разумеючы, паглядзеў на машынку, потым на хлапцоў і раптам заплакаў, закрыўшы твар вялікімі рукамі...

Калі яны пайшлі, ён вярнуўся да стала, яшчэ раз прачытаў: «Удзельніку прарыву блакады Ленінграда таварышу Паўловічу А.Р. ад моладзі аб'яднання «Беллічтэхніка». 21.1.84 г.». Побач стаяў «Рэйнметал», ён пагладзіў па яго паверхні, што цьмяна паблісквала, і рашуча адставіў убок. Прысунуў «Эрыку», уставіў у яе чысты ліст паперы і павольна, па літарах, аддрукаваў: «Бяспрыкладны подзвіг ленінградцаў».

Ён друкаваў усю ноч. І скончыў у раніцу словамі: «Няхай вашы дзеці, унукі і праўнукі жывуць у шчасці»...

# Беларускія зоркі



Усевалад СЦЕБУРАКА

## Беларуская робінгудская

*Унутранай эміграцыі прысвячаецца*

*У каралеўстве бардак —
спрэс у скарб недаборы,
б'е чума новым штамам,
хоць выйшаў загад...
А вясёлыя людзі
застаюцца ў Шэрвудзе —
цяжка трапіць у шэрвудцы —
немагчыма назад.
А кругом безмяжак!
На турнірах — паразы,
і суседзі ў змове —
будуюць сцяну.
А вясёлыя людзі
застаюцца ў Шэрвудзе —
каб сыйсці трэ прычыны,
як найменей адну.
Ды прычынаў няма —
каралеўства вае.
З ветракамі, з сумленнем
і супраць сябе...
А вясёлыя людзі
застаюцца ў Шэрвудзе —
і змаганне стаміла,
і страх не бярэ.
А цямнее раней,
і світанак ідзе неахвотна,
і падаўся народ
у краіны, дзе неба чысцей.
А вясёлыя людзі
паміраюць ў Шэрвудзе —
на радзіме, гавораць,
уваскрасаюць часцей...*

## Кароткае рэзюмэ фэйсбучнага эксперта

*Пацыфіст і альтруіст,
гендэрны спецыяліст,
вірусолаг, кліматолаг,
коўч і гештальтпсіхолаг
трэнер алімпійцаў,
прыклад для партыйцаў,
прапаведнік і эстэт,
фітнэс-гуру і атлет,
садавод-гароднік,
самельe і моднік...
А цяпер у новым стане —
важны спец па Казахстане.
Ведаю дзясятак слоў
і гатовы быць паслом.*

***

*Пану БЕРАГОВІЧУ,
уквялёнаму хваробай, прысвячаецца.*

*Саслаб водар кветак —
не страшна!
Такой бяды,
што стух адэкалон.
Не так важна, як пахне каша,
ці дужа духмяны булён.
І што там за смак у ірыскі?..
Усё яно гарам гары!
Але як знік пах ва ўлюбёнага віскі,
ірландскага віскі,
цудоўнага віскі —
ратуйце мяне, дактары!*

## З Роберта Раждзественскага

*Чалавеку шмат не трэба:
у суладдзі жыць
з сабой.
Слёз і смеху поўны цэбар,
сябра —
свой,
і вораг —
свой.
Чалавеку шмат не трэба:
каб сцяжына ў дом вяла,
маці каб пад гэтым
небам
колькі трэба ёй
жыла.
Чалавеку шмат не трэба:
колькі цішыні гадзін.
Лусту бацькавага хлеба.
Кон —
адзін.
І скон —
адзін.
Ранкам свежую газету,
у ёй пра тое, што люблю.
І ўсяго адну планету —
сінявокую
Зямлю!
І —
міжзорную дарогу —
шлях на вастрыні ляза.
Гэта, нібы, і
Нямнога,
гэта, зрэшты,
драбяза.
Хопіць гэтага да веку,
іншага б і не шукаў.
Шмат не трэба
чалавеку —
толькі б дома хто
чакаў.*

***

*А на вуліцы 21-ы
адчуваецца як 37-ы.
Кожны дзень у няпэўным кірунку
адбывае адзін твой знаёмы.
Хто-дзе — цяжка сказаць акрэслена:
на Акрэсціна ці ў Варшаве?
Людзі ў берцах стаяць абедні
Божай маці ў балаклаве.
Прачынаючы 37-ы
ажывіўся стукач у пад'ездзе,
і ўжо чарговы знаёмы
прызадумаўся аб ад'ездзе...*

*Адчуваецца як 37-ы,
але ўсё-ткі яшчэ 21-ы.
Застаецца апошні знаёмы,
і пакуль што не садзяць за вершы!*

***

*Мне падаецца — далёка баі,
так што ў бяспецы мае краі.
Мне падаецца — за лесам вайна
і не зачэпіць майго майна.
Цягнуць ахвяр
да расстрэльнай сцяны —
грэху няма тут майго і віны.*

*Не пераймайся, спакойна жыві!
Скуль жа на твары пырскі крыві?
Я не прымаю ўдзелу ў вайне.
Вайна прымае ўдзел ува мне...*

***

*Як ліст з мінулага жыцця —
узгадка з памяці шуфляды.
І нібы ёй зусім не рады.
Зусім не рады,
а хаця...
Я рады ёй!
І ёй багаты!
Адпраўнікам і адрасатам
усім — з мінулага жыцця.
Нічога там —
ўсё паўсядзённа,
звычайна, проста і будзённа.
Ды толькі ў променях святла...
Таго святла, што застаецца,
калі знікае ўсё, здаецца,
калі вакол пануе ўмгла.
І я саджуся і пішу,
і зноў такіх лістоў чакаю.
Няхай у будучым ўсплывае,
што сёння
у грудзёх
нашу.*

## Вечная мерзлата

*Нехта піша, што снег ідзе —
я гляджу і не бачу, дзе?
Гэта попел свой грым кладзе.
Ён на скронях і на вадзе.
Нехта кажа — узяў мароз.
Гэта жах, што працяў наскрозь.
Ён працяў, запаволіў рух,
сэрцабіццё і сілу рук.
Нехта кажа — прыйшла зіма.
Але й гэта кажуць дарма.
Мы даўно, нібы снежны ком,
і жывем як пад ледавіком...*

***

*Хто адшукае, хто пазнаходзіць
сённяшні час, што імкліва сыходзіць...
Ці захавае час таямніцу,
тую,
што ў ночы бяссонныя сніцца?..
Сніцца цяпер нам
з-за межаў, з-за кратаў,
цмяным набыткам
і горкаю стратай.
Час, у якім мы жывем і гарым,
час, што знікае
як водар,
як дым.
Дзе яго месца
ў архіве стагоддзяў?
Ці пажылі-патрывалі —
і годзе?
Ці перакрочылі,
ці на мяжы?*

*— Ты адчуваеш?
— Ты мне скажы.*





Фота Алесі Дабравест

***

*Рабоў не чакаюць у раі.
Рабоў чакаюць пакуты.
Не рабству той вас вучыў,
хто быў да крыжа прыкуты.*

*Рабоў не ўшануюць у раі.
У рабстве няма геройства.
Там роспачы па краі
і лёзы згрызотаў вострыя.*

*Рабоў не ўспомняць пасля —
на трызне ўзгадаюць смелых.
Ім будзе лягчэй зямля
ад пёраў анёльскіх белых.*

*Рабы не пакінуць след
на гэтых шляхах адвечных.
Ім не адгукнецца сусвет
і зоры на шляху млечным.*

***

*Нідзе
так
не стаіць Воз,
як над закінутай хатай.
Нідзе
так
не сумуе Серп,
як над полем не зжатым.
Нідзе так не гарыць Маладзік,
як у дзедавым садзе.
Нідзе лепшага месца
няма зорцы,
калі яна ўпадзе.*

*Паўсюль
на гэтай адвечнай
зямлі
на ручніках сузор'і,
і ў полымі, кроплях,
слядах на раллі,
ў марозным ачэзлым голлі.*

*Ціша стаіць ці б'юць званы —
праз балаты ці ўзгоркі
над гэтым краем стаяць яны —
Беларускія зоркі.*

***

*Хацелі быць трэцім рымам,
а сталі чацвёртым рэйхам.
Жыццё праляцела міма
з шалёным сабачым брэхам.*

*Хацелі мацней у балеце,
хацелі сады на марсе.
Гагарын ляцеў на ракеце...
Ўсё знікла ў крывавым фарсе.*

*І зноўку пад кірзавым ботам
зямля захлынецца ад болю.
І ўсё адкладзецца на потым
і не надыдзе ніколі...*



Марыя НОВІКАВА

# Мой сябра Чэ

*8 кастрычніка на Кубе адзначаюць свята ў гонар Эрнэста Чэ Гевары.*

Сёння восьмае кастрычніка. Панядзелак. А ў нядзелю быў дзень настаўніка. Класна, праўда? Бацькі шлюць віншавальныя смскі, з экрана TV ліецца «учыцель, перад іменем тваім…». Хто-ніхто з вучняў таксама мармыча: «З празнікам, Марыя Сяргееўна. А фартэп'яна будзе?».

А я? А я чую ўсе гэтыя галасы з такога «прыўкраснага далёка»! Вушы яшчэ не аджылі пасля лячэння на мінулым тыдні.

— Вось жа плакса! — скажа нехта, хто не ў тэме. — Падумаеш, застыла крыху! Дык цэлы ж тыдзень на бальнічным сядзела!

І як толькі ён гэта вымаўляе (хаця б і не ўслых), побач са мной з'яўляецца барадаты прывід кубінскага партызана.

Усё пачалося з візіта ў выканкам. У школе мне далі пяцёрку канвертаў-файлаў з пазнакамі «каго куды». І вось я ўваходжу ў левыя дзверы і бачу за шклом цэлы заградатрад: турнікет, сяржант з металашукальнікам і нейкая кіпцюрастая асоба ў пілотцы за сталом, на якім кніга рэгістрацый наведвальнікаў.

Я такога не бачыла нават на спатканні з Папам Рымскім у Каўнасе. Там, прынамсі, ніхто не патрабаваў пашпарт.

— Что у вас в сумке? — пачынае сваю важную працу сяржант.

У маёй торбе цесна спрэсаваныя ляжаць жаночыя дробязі ўперамешку з ключамі «ад усяго» — ажно тры нізкі. Там жа прытуліліся каляровыя асадкі, невялічкі нотны сшытак, нататнік з надпісам «Гістарычная каштоўнасць — натхненні пачатку XXI стагоддзя», ужо напалову запоўнены «натхненнямі», маленькая лыжка, сцізорык, пашпарт у абгортцы з катом на «фасадзе», мінінабор кусачкаў і абцугоў, чатыры вялікія шрубы і адзін карацейшы, ключ для настройкі фартэпіяна (ён падазрона нагадвае адмычку), некалькі жалудоў, сабраных па дарозе ля выканкама (для кампазіцыі на школьную выставу)… І я разумею, што калі прад'яўлю пільнаму сяржанту гэта ўсё, мяне адразу залічаць у падрыўнікі. А школьныя паперы давядзецца зноў заўтра некаму везці ў аддзел…

— Асабістыя рэчы. — Вымаўляю я рашуча і рыхтуюся тлумачыць прызначэнне жалудоў.

— А в авоське?

Я на момант выпадаю з рэальнасці. Гэта ён пра маю торбу з надпісам «Тэўтонскі ордэн — на металалом!» ці што? Але сяржанта цікавіць менавіта металалом (а дакладней макулатура), якую я намагаюся пранесці ў гэтую цвярдыню бюракратыі. Ён перагортвае пачак дакументаў, квітанцый, нейкіх загадкавых спісаў з пячаткай школы, і пільны палец утыркаецца ў апошні нумар «Новага часа» з вялізным артыкулам пра Эрнэста Чэ Гевару…

— Абзац! — думаю я, — Поўны. Шрыфтам «Times New Roman» васямнаццатага памеру…

Але працаўнікі выканкамаўскай «мытні» ніколі не чулі пра гераічнага камандантэ, і мяне прапускаюць за турнікет.

Падыходжу да аддзела адукацыі, і на́ табе — сюрпрыз! Там на ўваходзе кодавы замок, маўляў, нечага тут шастаць.

— Золата партыі яны тут схавалі — у сейфе адукацыі — ці што? — вырываецца ў мяне. — Ад каго яны закрыліся? Але насустрач з аддзела вылузваецца нейкі «прадстаўнік» у касцюме. Ён нечакана шляхетна адкрывае перада мной дзверы, і абурэнне крыху сціхае.

Раздаю ў кабінеты макулатуру. Торба худзее. Застаецца райкам БРСМ — падпісаць план работы школьнай «пярвічкі». Гэтыя «маладыя арлы» маюць гняздо ў падвале. Заходжу. Аддаю.

— Оставляйте. Мы посмотрим позже и перезвоним… — выціскае, не гледзячы на мяне, чарговая асоба з чорнымі кіпцюрамі.

— Ды што вы там глядзець будзеце?! — мяне нарэшце ўзрывае. Гэтай «птушцы» на выгляд пару гадоў за дваццаць. Няўжо тут сапраўды думаюць, што ў школе педагог-арганізатар са стажам у трыццаць гадоў не здольны стварыць такі геніяльны дакумент, як план работы на 2019 год? Але «драпежная» сакратарка гаворыць цалкам сур'ёзна — яна верыць, што ў гэтым кабінеце спаўняе важную агульначалавечую місію…

— Дык давядзецца ехаць зноў сюды. Гэта ж не з суседняй вуліцы прыйсці!

— Ничего. Не могу же я не ознакомиться с планом вашей работы…

Хочацца пастукацца галавой аб шафу з надпісам: «Квартальный отчёт».

Мне робіцца дзіка: «Гэта я звар'яцела, ці тут "клімат" такі?». Выскокваю з выканкама. На ўваходзе сяржант мной не цікавіцца — выхад вольны. І на ганку да мяне прыходзіць прасвятленне: «А што я хачу? Ці ж могуць захоўваць здаровую псіхіку людзі, чые вокны глядзяць на адваротны бок "доски почёта"?». На плячы я адчуваю спачувальную далонь героя кубінскай рэвалюцыі…

Вечарам мяне ахопліве чых — набралася заразы ў іхнім рассадніку дзяржаўнага клопату пра чалавека. Тэмпература трывае да панядзелка, і я дапаўзаю да палiклінікі… Званок ад завуча гучыць якраз у момант, калі я дачытваю, што «лісток непрацаздольнасці» мне дадзены да серады. Бадзёры голас абвяшчае грандыёзную навіну: нашай школе даверана выступіць на раённым святкаванні дня настаўніка. І я там павінна быць. Заўтра едзем на рэпетыцыю.

— У мяне бальнічны.

— Ну пастарайся як-небудзь. Зёлак якіх папі. Ты ж ведаеш, што адмовіцца мы не можам.

—***, — думаю я не ўслых.

Трубка адказвае гудкамі.

Мы прыбываем на рэпетыцыю — у 13:00, як і загадана. Тут ужо гіганцкі рух — усе заклапочна снуюць па актавай залі: танцоры з Бараўлян, харысты з Міханавіч, вакальны гурт яшчэ раз з Бараўлян (ужо з гімназіі), чытальнікі-маладыя спецыялісты «з усіх бакоў раённага свету» (ім даверана літаратурная кампазіцыя з танцамі вакол ветэранаў педагагічнай працы). Кампазіцыя відавочна рассыпаецца, бо ўяўляе сабой груваствую канструкцыю з рэплік, якія павінны агучыць па чарзе гэтыя парасткі педагогікі. Прычым рэплікі, відаць, сачынялі ўсім метадычным аддзелам, адчуваецца прысмак калектыўнай творчасці.

— Я — Песталоцы!.. — тым часам мучаецца чарговая ахвяра сцэнарыста…

— А на выгляд — такі прывабны юнак! — каментуе наша завуч…

Усе ўжо парадкам знерваваныя — і акторы-чытальнікі, і танцоры (якія, як высветлілася, чакаюць з 10:00), і вакальны гурт (ім трэба на канцэрт). Энтузіязм фантануе толькі з рэжысёркі. Гэты кадр з аддзела пырхае пад сцэнай, энергічна махае, затым моршчыцца і вымаўляе: «Не верю! Ещё раз с начала…». А я чхаю на ўсіх проста ўслых. Але мне можна — маю дазвол з паліклінікі.

Мы прапускаем танцораў, вакалістаў, ветэранаў і піянераў і каля 16:00 нарэшце выходзім на сцэну. Я спяваю сваю партыю сапранавай каларатуры (нават не чыхнула ні разу — што значыць вакальны стаж!). Тры хвіліны — і мы вольныя… І тут на рэжысёрку сыходзіць одум:

— А в чём вы будете одеты? В этих — не пойдёт. Привезите завтра костюмы.

У нас, як у п'есе Гогаля — «нямая сцэна».

На зваротным шляху мы заязджаем у Чырвоны касцёл і пазычаем чатыры сінія сукенкі ў літургічнага хора «Голас душы», дзе я спяваю ў сваім другім (пазашкольным) жыцці. На грудзях там вышытыя стразамі крыжы, але іх мы загароджваем сінімі ружамі з фаамірана — так раіць школьны дызайнер. Усе згаджаюцца, бо інакш трэба ехаць не дамоў, а ў краму.

Назаўтра мой бальнічны падаўжаюць да пятніцы, і мы едзем у Бараўляны — прадэманстраваць, як будуць глядзецца на нашым квартэце абноўленыя строі «Голаса душы». Тым часам мой голас робіцца барытонам, і мы з Ганнай Уладзіміраўнай мяняемся партыямі…

Рэжысёр ухвальна прыцмоквае і дазваляе пакінуць у канцэрце нашыя касцюмы. 16:30. — едзем дамоў. У вечаровым тумане ў абрысах кудлатых клёнаў мне бачыцца постаць бравага Эрнэста з аўтаматам…

Ранак пятніцы баўлю ў паліклініцы, дзе Ала Міхайлаўна задумліва выцягвае з вушэй слухаўкі.

— Неяк слабавата… Паляжыце яшчэ да панядзелка.

Я прыкідваю, што на «паляжаць» у мяне застаецца дваццаць хвілін, і бягу дамоў — укусіць што-небудзь, бо ведаю, што ніхто ў Бараўлянах нам нават гарбаты не нальe.

У Бараўлянах прастора перад актавай залай віруе падрыхтоўкай: ставяць кветкі, чапляюць нейкія літары, насупраць увахода ў залу ўсталяваны партрэт начальніка раённага аддзела адукацыі, перад якім кленчаць дзве настаўніцы. У іх адказнае заданне: падторкнуць пад раму ільняную палатніну, каб нагадвала дызайнерскую драпіроўку. <…>

— Подари, судьба, нам столько счаааастья-а-а-а…

Гукі да мяне далятаюць, як праз тоўшчу вады, таму чую: «Подари, судьба, нам столько платьев….». І тут рэжысёрка неяк адступае ў міжраддзе і прыцэльным позіркам акідвае нашу аксамітна-сінюю вакальную групу.

— Какие-то они не одинаковые… А почему у вас причёски разные?

— А ці не пайсці б вам развязваць тэрцквартакорды з падвышанай квінтай і паніжанай сэптымай у дваццаць чатыры танальнасці, — думаецца мне праз ма ў мікрафон. — Як жа мы можам стаць аднолькавымі, калі паміж мной і Ганнай Уладзіміраўнай розніца ў сорак кілаграм! На якое месца іх ёй прыклеіць (бо ад сябе адрэзаць я не дам)?!

— Потому, что у них тип лица разный, им одинаковые не пойдут… — нехта адэкватны ад пульта гукарэжысёра спрабуе згладзіць мой спіч.

— Ладно, пусть так идут, но поменяются местами, чтобы хвосты через один были…

Мы ідзем стандартызоўваць хвасты, а тым часам пачынаюць прыбываць першыя госці. Яны бязладна снуюць вакол выставы, на момант зазіраюць у залу. Але ў тую лядоўню нікому не хочацца, і яны знаходзяць сабе цікавы мастацкі занятак: фатаграфуюцца з партрэтам начальніка аддзела адукацыі…

За кулісамі — у невялічкім пакойчыку з трыма крэсламі чакаюць часа «ікс» вакальны гурт, танцавальны калектыў, маладыя спецыялісты і наш квартэт. Метадыстка з аддзела ўвесь час дабіваецца цішыні, раптам зеленее і пачынае замагільным шэптам дапытвацца: «Где Дзістэрвег?». Ёй прапануюць прыдушанага гальштукам «Песталоцы», але замена не задавальняе адказную даму: «Не смешно! Вы же взрослые люди…».

Мы дарослыя, але нам якраз смешна, бо ніхто не можа растлумачыць, як мы ўсе (і галоўнае — навошта) аказаліся статыстамі ўсяго гэтага цырка. У калідоры чуецца нейкі рух і грукат. Выглядваю і разумею, што мы не ў цырку, а ў вар'етэ: увесь калідор ад майго носа да кабінета другога намесніка дырэктара займае гіганцкі паўліні хвост, які ў разгорнутым выглядзе трымаецца на каркасе з дрота.

— Пакістанская… Гэта я як міністр прамысловасці Кубы кажу — зуб даю… — каментуе мне на вуха сябра Фідэля.

— Осторожно! — шыпяць з калідора і захлопваюць дзверы, зашчамляючы мой уласны сіні аксамітны хвост. Вызваліць яго дапамагае прывычная ўжо рука Эрнэста.

— Gracias, comandante…

У грымёрцы робіцца вальней — на сцэну выбіраюцца па адным маладыя спецыялісты. Вядучы выклікае да іх з залы ветэранаў педагагічнай працы, і на сцэне ўтвараецца падвойнае людское кола, як для гульні ў «трэці — лішні». Тут царуе гендэрная талерантнасць, бо маладыя спецыялісткі ўпэўнена пераконваюць гледачоў, што яны — Ушынскі, Аманашвілі і Арыстоцель. А зала ўжо не здзіўляецца, калі пачынаецца вальс, і ў пару «Дзістэрвегу» дастаецца вусаты дырэктар адной з раённых школ. Усе чакаюць іх танца, але вядучы сігналіць вачмі, як сапсаваны семафор, і дырэктара перахоплівае «Ушынскі» ў кароткай спадніцы.

Прамаўляе начальніца аддзела адукацыі. Ветэранаў працы нарэшце адпускаюць з граматамі ў залу. Яны па чарзе ныраюць са сцэны ў цемру і знікаюць недзе ў лабірынце глядацкіх крэслаў. Наш твор на чатыры галасы, аздоблены маім басам, выклікае кароткае ажыўленне сярод гледачоў. Але са сцэны нас не адпускаюць. Сінія сукенкі — выдатны фон для выступлення невядомага ўдарніка з педагагічнай нівы. Ён цягам дваццаці хвілін апавядае, як у ранейшыя часы ўздымаў школу на недасяжную вышыню, а я цішком здымаю чаравікі на абцасах і з асалодай варушу скамянелымі пальцамі ног, прыкідваючы, ці можна скласці з іх дулю.

Першае аддзяленне сканчваецца, і нас адпускаюць у залу, маўляў вы ж таксама настаўнікі, то няхай і вам кавалак свята дастанецца… Садзімся ля дзвярэй, каб выскачыць адразу, як адпусцяць нашу дырэктарку (яна нас прывезла). <…>

А, тым часам, інтрыга сцэнарыя робіць круты віраж, і ветэранкі педагагічнай працы трапляюць у атмасферу начнога клуба: у пранізлівым святле пражэктараў таньчаць штосьці гімнастычна-эратычнае чатыры пары. Касцюмы танцорак нагадваюць чырвоныя і чорныя навагоднія сцяжкі на стужцы, абгорнутыя вакол… ну, скажам, таліі… Мужчыны на іх фоне — проста лонданскія дэндзі ў белых штанах…

— Я уверена, что вам очень нравится наше выступление! — чуецца бравурны голас вядучай. — Почему же вы так тихо аплодируете?!

— Таму, што закрываюць далонямі вочы… — адказвае цішком нейкі прадстаўнік мужчынскай паловы настаўніцкага свету…

Вядучая не здаецца і жыццярадасна абвяшчае, што наперадзе нас чакае яшчэ тузін цудоўных музыкальных нумароў. Зала пачынае шалёна апладзіраваць, нібыта спадзяецца, што гэтакі ход змусіць артыстаў вокамгненна спыніцца. Але праграма канцэрта зацверджана пячаткай аддзела, і датэрміновага вызвалення чакаць не выпадае.

Нават гарачаму Чэ няма чаго сказаць. Мы замаўкаем, але мне ўвесь час здаецца, што хірург і дэрматолаг узіраецца ў сцэну неяк падазрона прафесійна…

Апошні нумар канчаткова тлумачыць усё тым, хто яшчэ сумняваецца, за каго нас тут трымаюць: на сцэну выходзяць танцоркі, апранутыя ў паўлінія хвасты. Тыя — з калідора. Спявачка завывае штось феерычнае, а паўліны эфектна разварочваюцца тварам да сцэны і застываюць у паклоне. На залу з-пад хвастоў пераможна глядзяць… Ну, вы зразумелі.

Усю дарогу дамоў я суцяшаю дэмаралізаванага тактыка партызанскай барацьбы.

А дома вышываю люрэксам на цішотцы партрэт Эрнэста і ўрачыста абяцаю, што буду хадзіць у выканкам толькі ў ёй.

— Ganaremos! Правмеся!» — адказвае мне Чэ.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (189), травень 2022 года



Рой КЭМПБЭЛ

***Рой Кэмпбэл (1901—1957) — паўднёваафрыканскі паэт, літаратурны крытык і перакладчык, які пісаў па-англійску і значную частку свайго жыцця пражыў у Еўропе.***

***Прыняў каталіцызм. Быў прыхільнікам іспанскіх франкістаў і тлумачыў сваю пазіцыю супрацівам атэістам і камуністам. Не прыняў гітлераўскі фашызм якраз праз яго антыхрысціянства. Ваяваў у шэрагах брытанскай арміі. Быў звольнены з войска па інваліднасці. Загінуў у аўтамабільнай аварыі.***

***Яго творчасць атрымала высокую ацэнку ад такіх паэтаў, як Т. С. Эльёт, Джон Толкін і Дылан Томас. Яго, аднаго з творцаў познерамантычнай традыцыі, называлі «Байранам свайго часу».***

# Гарачыя вінтоўкі



Фота sandiegoreader.com

### Тэалогія бабуіна Бонгві

*Ёсць малпаў клёк пад поўняй той:*
*Раві, ты ж не адзін.*
*Бог, што надаў мне вобраз свой, —*
*Вялікі Бабуін.*
*Ён поўню нахіліў наўскос,*
*Узяўся лес хістаць.*
*Трапецыю сярод нябёс*
*Ён мае, каб скакаць.*
*Загнуты так па-боску хвост,*
*Такі вакол прастор,*
*Што можна разжаваць наўпрост,*
*Як косткі, ядры зор.*
*Памру, а ён уздыме з тла*
*Мяне, каб краявід*
*Убачыў я Дабра і Зла,*
*Убачыў Боскі спрыт.*

### Нявольнік

*Ягоны ўбор — імгла на галізне*
*Гарачая. Цярпліва ступакі*
*Аратага нясуць, ён сам — нібы ў паўсне,*
*Ўздымае дзёран плуг яго цяжкі.*
*Нявольніцкае сэрца раніць боль*
*Мацней, чым лемех той — чырваназём.*
*Камяк ружовы й той свабоды больш*
*У полі адчувае пад дажджом,*
*Што дзіды ў бой гукаў былых плямён.*
*Цяпер жа праз папар павольі рушыць ён,*
*Упарты раб, і глебу топча, й кветкі*
*Ў цярплівасці, што знесла часу межы,*
*І робіцца да глебы блізкі гэткі,*
*Палацы бурачы, пасады й вежы.*

### Дзяўчына-зулуска

***Ф. К. Слэйтэру***

*Калі на полі ў поце люд гаруе,*
*Дзе чырванню спякотнай тхне ралля,*
*Яна, матыку кінуўшы, спрабуе*
*Ад мух забраўшы, збавіць немаўля —*

*Нясе пад цёрн, у цень малое цельца*
*Ружовае, у кропках ад кляшчоў,*
*Галоўку гладзіць — тут жа токам б'ецца*
*Шчацінне ледзь адрослых валаскоў.*

*Ад смочкі цесна у маленькім роце,*
*Што цмокае, як шчанючок які.*
*Туды струменіць млявасць, бы ў чароце*
*Таймуецца плынь быстрае ракі.*

*Ды ўсмоктвае малое нестамлёна*
*Глухой пустэльні спёку ў гэты час,*
*Брутальнасць пераможаных плямёнаў*
*І годнасць змрочную атрыманых параз.*

*Яна ўзвышаецца над ім гарою*
*Над вёскай ціхай, зморанай украй,*
*Ці хмарай першай, што, нібы ў спакої,*
*Ў грудзях нясе пагрозлівы ўраджай.*

### Восень

*Люблю, як падае лісцё*
*Анатамічна-ясна. То зірні:*
*Зіма — мастацтва ўзор. Жыццё,*
*Пачуцці тлумяцца дарэшты —*
*Сляды жывой ратуйма чысціні.*

*Ўжо чую бразгат ланцугоў*
*Гусей, да месяца прыкутых там...*
*Пад сонцам галізна лугоў,*
*І сосны з цэмры шэпчуць нешта*
*Ў ігліцу будучым паўдням.*

*Аліўкі ад штармоў бялеюць,*
*Нязломныя ў змаганні ваяры;*
*Галінкі вінных лоз святлеюць —*
*Алей, віно сальюць у чаны*
*Да познялетняе пары.*

*І на агніску пахавальным*
*Абсыплецца іх сцёблаў гнілізна.*
*Агонь рубінам развітальна*
*Міргне ў крыштралі пекным чары,*
*І пальцы счырваніць яна.*

### Блакітная хваля

*Блакітная хваля,*
*Як хваля, бяжыць,*
*Са ззяннем дрыжыць*
*На сонечным вале,*
*Што з кос залатое*
*Праменіць святло;*
*На лодцы ў жытло*
*Плыве ён з сястрою;*
*Арлінае ў небе*
*Гняздо бачыць ён,*
*Дзень, нібы дракон,*
*Схіляе свой грэбень.*
*Пра ўладу гаворка*
*Над часавай плынню,*
*Бо Захаду зорка —*
*У нашым графіне.*

### Лебедзі

*Цямнелі дрэвы ў сне, бо іх абрысам*
*Не даў сінечы слаўны краявід.*
*Разрэзаны высокім кіпарысам,*
*Прысніў свой цень на мармуры блакіт:*
*Пакуль яе, аднак, падсвечваў цела,*
*Што было побач, незямны мой дух,*
*Цурка віна рубінавага рух*
*Грэў мне душу так, што яна трымцела.*
*А ноч цякла блакітнаю ракою*
*І думкі сцёбламі нам серабрыў чарот,*
*У цішыні плыў лебядзіны флот*
*І прамаўляў «Бывайце!» хваль спакою.*
*У плыні зорак водбліскі згасалі —*
*Як кветкі ў водах ціхіх ручаёў,*
*І лебедзі нібыта лямпу сноў*
*Між сцішаных лілеяў задзьмувалі.*

### Жанчына ў сне

*Зачырванеў брыльянцісты мароз*
*Паміж шыпоў малочных на світанні,*
*Яшчэ дрыготкае ў нябёсах ранне,*
*І золак згубу зоркам не прынёс.*
*А колер яе скуры залатым*
*Нібы пацягнуты пушком красы,*
*Чарнеюць над аблічам гожым тым.*
*Як кіпарыс зіхоткі, валасы.*
*І прагне дзень, нібыта шкло, празрысты*
*Яе пагляду зберагчы ўсе рысы*
*І пекны кшталт яе падкрэсліць веек*
*На фоне шчок — і вось тады яны*
*Нагадваюць выразна неяк*
*Ігліцу перыстай сасны.*

### Гняздо крумкача

*Яго жытло — з галінак — угары,*
*Агмень стварае, як нявеста ў хаце;*
*Працятыя маланкай кіпцюры,*
*Што быццам бы змушаюць, як праклятае,*
*Благаць іх пах і колер на мацнець,*
*Бо яны ўсё-ткі сонца — гэта іх крыніца,*
*Ў агні каб языкатым не згарэць,*
*Наадварот — успыхнуўшы, ўзнавіцца;*
*Прысвістам языкоў, паветра пахам*
*Даваць прыплод заўжды,*
*пад кожным дахам*
*Салоўкамі й, у засені садоў,*
*Пладамі, аж не запяе няспынна,*
*Не запануе ўсюды зеляніна*
*І птахаў квет не ўзнікне з каранёў.*

### Крышталь

*Каб плоць яе сфармуляваць*
*У ідыёме думкі яснай,*
*Я спрабаваў адшліфаваць*
*Крышталь арктычны: аднačасна*
*Ў сілкі марозных прамянёў*
*Патрапіць сонца, й пульсаванне*
*Пад аблачынкамі агнёў*
*Дасць чырвань ім, таксама й ззяннем*
*Палярным жарсці, каб у іх*
*Уплішчыць вен сваіх блакітнасць;*
*Раскошы нервы ў ззяннях тых,*
*А ў дыяменце — жыл аквітнасць;*
*Хоць бляск халаднаваты гэты,*
*Ўнутры хаваецца цяпло —*
*Дыхнуць я здолеў бы на шкло,*
*Адчуць каб плыннасць сваёй мэты,*
*Што, як вада, нястрымна мкне —*
*Цячэ скрозь пальцы у мяне.*

### Гарачыя вінтоўкі

*Вінтоўкі нашы рукі нам пяклі,*
*Ноч выбухала сталлю. Па завулках*
*І вуліцах гучалі залпы гулка,*
*Укленчаныя снайперы былі,*
*Нібы маліліся. Ва ўсе бакі*
*Гучалі воклічы фатальных фурый,*
*Хінуўся месяц да ракі пануры,*
*Як доўгая вінтоўка да шчакі.*
*У тым жахлівым д'ябальскім абстрэле*
*Людзей я не падлічваў тых, што хіжа*
*Смерць забірала, й тых, што ацалелі,*
*У шале ад трыумфу аднаго:*
*Таледа ззяў, прыбіты ўжо да крыжа,*
*У промнях ран Настаўніка свайго.*

### Хрыстос у вайсковай форме

*Дзяўчына і хлапец упалі*
*Ў дзвярах, каля мяне зусім,*
*Нібы на ложы радасці самім*
*Канец свой здушана віталі.*
*Але наперад рушыла лавіна —*
*Чарговых тысячаў паток бясконцы,*
*Бо там, дзе тузін быў палёг мужчынаў,*
*З'яўляецца ўшчэ сотня мірмідонцаў[1] ...*
*Калі Хрыстос,*
*наш Бацька Сонечны, стаіць*
*Зноў на крывавай сцежцы,*
*па якой сыходзіў,*
*І мужнасць нашу цэнячы, Ён пры нагодзе*
*Задумай слаўнай прагне нас здзівіць —*
*Наўперад нам, на ўсе тысячагоддзі*
*Ядро агню адзінае зварыць.*

### Кадр з Найробі

*Паўсюды коркі апельсінаў грудамі ляжаць,*
*А зоркі — паспрабуй іх нават палічы —*
*На кожным,*
*што так звыклася салютаваць,*
*Аж ледзьве не зламалася, плячы.*

### План Беверыджа[2]

*Цяпер па свеце ўсім чуцён,*
*Не ўчыніць зман ці схізму:*
*Святошаў мару здзейсніць ён —*
***Фашыдэмакшавізму!***

### Пра пакутніцтва Федэрыка Гарсія Лоркі

*Не толькі тое яму лёс адмераў,*
*Што быў забіты жорстка, без спагады —*
*А й тое, што пасля штылетам і сякерай*
*Рабілі яго твораў пераклады.*

### Узыход месяца над Ньянзай[3]

*Зеніт самой Аўроры ўскосна*
*Прынёс мне мой паўдзень здаля,*
*І з халадком быў вечар росны,*
*І месяц узышоў пасля.*
*Чатыры я жанчыны бачыў,*
*Што тыя самыя былі,*
*Народжаныя ўсе, няйначай,*
*Ранейшымі на той зямлі —*
*Пра іх лагодны месяц сведчыць*
*Мне, а ягонае святло*
*Злучае тое, што, дарэчы,*
*Было — й нібыта не было,*
*Аж, быццам модлы, тыя промні*
*Адпаліруюць мне ружжо,*
*Крануць чало мне, каб я ўжо*
*Курс карабля свайго запомніў,*
*Між рыфаў, каля бухт скалістых,*
*Аж покуль Ньянза зрокам чыстым,*
*Адчуўшы вострую патрэбу,*
*Выглядваць славу будзе ў неба.*

### Майму былому настаўніку з гімназіі ў Дурбане Білу Пэйну

*Вы кажаце: вы не паэт? Ды, Божа!*
*Біл, вы — штосьць большае, бо, хоць сячы*
*Не здольнае тачыла, але можа*
*Для будучыні ўсім вастрыць мячы!*

***Пераклаў з англійскай***
***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

[1] Мірмідонцы, або мірміданяне — паводле міфаў Старажытнай Грэцыі, адно з самых ваяўнічых ахейскіх плямёнаў.

[2] Барон Уільям Генры Беверыдж (1879—1963) — брытанскі эканаміст, які распрацоўваў тэорыю дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту (найперш у сваім дакладзе «Сацыяльнае страхаванне і спадарожныя віды сацыяльнай абслугі», 1942).

[3] Ньянза — назва горада і правінцыі ў Паўднёвай Руандзе.

# Давід, які вельмі любіў сваё імя



Сяргей РУБЛЕЎСКІ

Да 2014 года Віцебск пры насельніцтве звыш 370 тысяч чалавек між тым здаваўся мне даволі малым і зручным для асабістага жыцця. Калі пасля работы трошкі затрымаешся ў цэнтры горада, паблізу плошчы Свабоды, дык абавязкова сустрэнеш колькі добрых знаёмцаў. І сярод іх зазвычай паэта Давіда Сімановіча. А калі наведаеш які кніжны магазін, дык вялікая верагоднасць, што пабачышся з ім там і ў суботу, і ў нядзелю... А калі раніцай, дык тым больш. Я не адразу даведаўся, што дактары было настойліва параілі Давіду штодзённы шпацыр, і ён з лёгкасцю вызначыў для сябе гарадскі маршрут. З маленства заўзяты кнігалюб, Давід шпарка крочыў штораніцы ад адной кнігарні да другой — ад «Ведаў» на вуліцы Леніна, бо жыў паблізу, да «Глобуса» каля плошчы Свабоды, потым па мосце цераз Дзвіну да «Светачы» на вуліцы Кірава і нарэшце на чыгуначны вакзал. Там, у галоўнай зале прытуліўся да сцяны букіністычны кіёск з раскладнымі паліцамі. Ці трэба казаць, што прыветлівы і гаваркі Давід, з якога іскрылася набірушчая бадзёрасць, быў чаканым госцем усіх віцебскіх гандлярак кнігамі. Доўжыў і доўжыў бясконцы раман «гандлярка і паэт».

І вось у маі 2014-га яго не стала. І горад мне здаўся дужа вялікім і перапоўненым выпадковымі людзьмі. Колькі месяцаў я аблудна спадзяваўся, што праз якое імгненне тут, каля кнігарні, вынырне з завулка знаёмая постаць у чорным берэціку набакір.

***

У 1980-м годзе, калі на Віцебшчыне ў сябры Саюз пісьменнікаў прынялі яшчэ двух паэтаў, з'явіліся падставы для стварэння абласнога аддзялення гэтай грамадскай арганізацыі. Добра помню ўстаноўчы сход з той нагоды, які праходзіў у рэдакцыі абласной газеты «Віцебскі рабочы». Старшынствалі на ім знакаміты Іван Шамякін і паэт Сяргей Законнікаў, які на той час узначальваў сектар мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. На сход быў запрошаны і я, тады ўжо супрацоўнік бешанковіцкай раённай газеты «Зара». І перад сходам, і падчас яго правядзення, калі пасля стварэння аддзялення пачалося вылучэнне на пасаду яго сакратара каторага адказнага творцы, у мяне амаль не было сумнення, што ім будзе выбраны Давід Сімановіч, які столькі гадоў па сутнасці дабрачынна выконваў гэтую работу. Але... Сакратаром быў прызначаны іншы чалавек, таксама годны паэт Алег Салтук. Чаму так, думаў я, ды і некаторыя іншыя ўдзелькі таго запамінальнага схода. Можа, «5-я графа» ў пашпарце перашкодзіла, дык яна ж ужо была не надта актуальнай у той час... Можа, тое, што рускамоўны, але ж пры такім падзяленні беларусы амаль ніколі не мелі перавагі. «Ага, напэўна, і першае, і другое, і штосьці трэцяе...» — падумаў я.

***

Калі я працаваў у абласной газеце «Народнае слова», дык з цягам часу навучыўся ў рэдакцыйных адмыслоўцаў працаваць з праграмай камп'ютарнай вёрсткі Page Maker. А калі авалодаў вёрсткай не толькі газетных старонак, але і кніжак, прапанаваў Давіду скарыстацца гэтым маім умельствам. Хацелася быць хоць чым карысным яму, аддзячыць за ўвагу да маёй творчасці і жыцця. Тым больш, што ў паэта падаспела колькі новых рукапісаў. І я зрабіў арыгінал-макеты для пары яго кніжак.

Асабліва мне запомнілася работа над кнігай «Жоўтыя бяссмертнікі дзяцінства», якая выйшла ў свет у 2005 годзе. Увечары, пасля заканчэння работы Давід прыходзіў да мяне ў рэдакцыю, і мы маракавалі з ім над выглядам яго новай кніжкі. А калі змест быў звярстаны, Давід, на маё здзіўленне, прынёс у рэдакцыю невялікі мяшочак жоўтых сухіх бяссмертнікаў. І як неўзабаве высветлілася, вельмі трапна. У мяне нязмушана, як бы сама сабой, тут жа ўзнікла ідэя афармлення вокладкі. Мы насыпалі на рабочае шкло сканера кветачкі, зверху я накрыў іх кавалкам шпалераў, які акурат трапіў пад руку і дапасоўваўся колерам да бяссмертнікаў, і так сасканавалі кампазіцыю. Атрымалася пераканаўча: кветкі свяціліся на фоне, не, не шпалераў, пра іх ніхто не мог здагадацца, а ледзь пазначанага някідкага ўзору. Заставалася толькі напісаць на выяве назву кнігі, што і было зроблена.

Але галоўнае тое, што я быў з Давідам сам-насам, шмат размаўляў з ім пра жыццё-быццё і, вядома, пра літаратуру.

Ён распавёў мне пра даўні звычай яўрэяў Нароўлі. Калі родныя прыходзілі на могілкі, каб памянуць сваіх нябожчыкаў, па вяртанні дамоў яны кідалі цераз левае плячо за спіну тры жменькі жоўтых бяссмертнікаў: маўляў, спіце спакойна, родныя, а мы пойдзем жыць далей...

Кнігу «Жоўтыя бяссмертнікі дзяцінства» склалі дзённікі і вершы паэта.

***

Перад самай вайной, калі яна, людажэрная, імкліва набліжалася з грымотамі да Нароўлі, малы Давід разам з бацькамі і іншымі сем'ямі на буксіры з баржай, балазе Прыпяць побач, адплылі ў эвакуацыю. Спачатку ў Кіеў, а потым на цягніках — да Узбекістана.

Мне асабліва запомнілася адна шчымлівая падзея гэтага выратавальнага падарожжа. Калі даплылі да Кіева і трэба было пакідаць судна, хтосьці здагадаўся раздаць дзецям салодкае багацце, якое везлі з сабой (не пакідаць жа акупантам!) — па скрыначцы цукерак з вядомай Нараўлянскай фабрыкі «Чырвоны мазыранін». Гэта была апошняя слодыч з неадчэпным прысмакам горычы, якую спытваў будучы паэт перад доўгімі ваеннымі гадамі.



Фота evreimir.com

Бацька яго Гірш Маісеевіч, згадваў Давід, дужа не хацеў выпраўляцца ў эвакуацыю, усё шкадаваў сваю... кароўку, сваю карміцельку. Ну як яе кінуць на волю лёсу! Зразумелыя пачуцці чалавека, які жыў з мазаля.

Ва Узбекістане хлопчык Додзік, як яго звалі бацькі і равеснікі (нагадаю, што ён нарадзіўся ў 1932 годзе), збіраў бавоўну ды зносіў яе ў хатулях, як падняць, да пункта збору. Калі пасля вайны мінула колькі дзесяцігоддзяў і Давід у складзе групы пісьменнікаў пабывае ва Узбекістане як ганаровы госць, атрымае ён у падарунак святочны вышываны нацыянальны халат і будзе гэтым вельмі ганарыцца.

***

Два гады да смерці ён разам з сябрамі дастаўся на легкавіку да сваёй Нароўлі — душа папрасіла.

А па дарозе заехалі на Буйніцкае поле пад Магілёвам. Для наведвання яго ў Давіда была асабістая прычына. Тут жа знаходзіцца і памятны камень Канстанціну Сіманаву. А славуты паэт, можна сказаць, адкрыў яму дарогу ў вялікую літаратуру: напачатку творчага шляху, у 1955 годзе, у часопісе «Новый мир», які ён тады ўзначальваў, з яго падачы была апублікавана падборка вершаў Давіда. Як не пакланіцца памяці Канстанціна Міхайлавіча, калі з'явілася такая магчымасць!

Калі яны прыехалі ў Нароўлю, Давіда Сімановіча сустракалі як ганаровага госця: сабралі аўдыторыю, наладзілі яго выступленне... Паэт купаўся ў паэзіі, нібы ў маленстве ў Прыпяці...

***

Напрыканцы 1980-х гадоў Давід Сімановіч узначаліў барацьбу за вяртанне ў Віцебск, у горад яго нараджэння, памяці сусветна вядомага мастака Марка Шагала. Пры камуністычным ідэалагічным прэсінгу творчасць Шагала, як вядома, лічылася непажаданай, калі не сказаць, шкоднай. Пра яе амаль не згадвалі. А пра ўшанаванне памяці аб жыцці ў горадзе яго ўраджэнца і гаворкі не было.

У свой час па Віцебску хадзіла пагалоска: амерыканскія турысты прыехалі ў Смаленск, а калі дазналіся, што Віцебск непадалёку, вырашылі заадно пабываць і на радзіме славутага мастака. Прыехалі і давай пытацца ў мінакоў, дзе ў вас музей Шагала або якая помная мясціна... Пытаюцца, а тыя ў адказ толькі плячыма паціскаюць.

Калі ў СССР пачалася перабудова, а з ёй з'явілася і публічнасць у грамадскім жыцці, у абкаме партыі пачалі праходзіць прэс-канферэнцыі. На адной з іх Давід счубіўся з... першым сакратаром абкама партыі Уладзімірам Грыгор'евым, пачаў палка даказваць яму аб неабходнасці ўвекавечання ў Віцебску імя вялікага земляка. Нязвыклы да такой дзёрзкасці ў пярэчанні яму партыйны лідэр рэзка асадзіў паэта. Праўда, праз пэўны час сустрэўся з ім і папрасіў прабачэння за сваю нястрыманасць, а з многімі высновамі Давіда пагадзіўся. Адбылася, як ён казаў, «дыялектыка ў свядомасці».

Але не думаю, што гэты выпадак быў найважнейшым у вяртанні памяці Шагала. Многае вызначылі перамены, якія ў той час адбываліся ў грамадстве, краіне.

А вось у зацвярджэнні імя славутага мастака ў родным горадзе Давід Сімановіч сапраўды зрабіў шмат. Тут і стварэнне Шагалаўскага камітэта, і правядзенне першых Шагалаўскіх чытанняў, у якіх прымалі ўдзел запрошаныя ім Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, і шмат іншых мерапрыемстваў, прысвечаных мастаку.

***

Хоць, прызнацца, гэтая актыўная дзейнасць Давіда ў апошнія гады яго жыцця мяне не вельмі займала. Мне ён быў цікавы як чалавек, які з ранніх гадкоў з нізіны пачаў і доўжыў дзесяцігоддзямі супраць стрэчнага ветру эпох узыходжанне на сваю літаратурную вышыню. Разам з неадчэпнай адзінотай і з «вечнай незадаволенасцю сабой» у душы, як напісаў ён у адным са сваіх вершаў.

***

Быў у маім жыцці перыяд, калі хоць адзін дзянёк на тыдні пачынаўся з тэлефоннага званка Давіда. Ён здароўкаўся і адразу чытаў тэкст — кароценькі ўрывачак з дзённікаў Льва Талстога. Урывачкі гэтыя былі хоць чым сугучныя нашаму часу. Як вядома, думкі і пачуцці выбітных мысляроў не старэюць. Такую ўкараніў Давід завядзёнку: гартаў і перачытваў дзённікі, падбіраў «цытату дня» і тэлефанаваў. Было хораша. Ранішнія чытанні абуджалі, узбадзёрвалі і задавалі пэўны рытм жыцця. Так спраўджваў ён даўнейшую мудрасць: падзяліся з іншымі сваім адкрыццём — і твая радасць падвоіцца.

У Давіда была цудоўная бібліятэка. Столькі гадоў штодзённых прагулянак па горадзе, ад кнігарні да кнігарні!..

На паліцах стаялі поўныя зборы Вялікай і Малой бібліятэк паэта, даследніцкія выданні аб жыцці і творчасці ўлюбёнага ім Пушкіна і шмат, шмат іншых тамоў і томікаў.

Калі Давіда з усіх бакоў абклала болем невылечная хвароба і ён не выходзіў з дома, мы з колішнім маім калегам фотакарэспандэнтам Міхаілам Шмерлінгам зноў і зноў наведвалі яго. Сядзелі, звыкла размаўлялі пра «неабавязковае», маўчалі, думаючы пра адно і тое ж, а больш дакладна пра адну і тую ж ва ўсе стагоддзі гнятлівую асобу.

І ні разу Давід не падаў знаку аб горкіх, невыносных пачуццях, якія раздзіралі яго душу і цела! Да канца трымаўся свайго правіла жыцця. Хіба што ў вачах яго пакрысе пачынала адбівацца змяркканне...

***

«Час раскідваць камяні і час збіраць камяні», сказана ў Эклізіясце. У годнага Давіда, можна сказаць, усё атрымалася наадварот. Спачатку ён старанна збіраў камяні, а потым «раскідваў» — прыладжваў іх да новых гаспадароў. Усё жыццё ён збіраў кнігі, гэтыя трывалыя камяні ў падмурак душы. А напрыканцы жыцця вяртаў іх на новы круг — праз букіністычную краму, падоўжваў духоўны кругазварот кніг у людскім свеце.

І шмат, шмат дарыў: маўляў, не бойцеся ісці па маіх слядах, надзейнае, каменнае апірышча пад нагамі!

У абласную бібліятэку імя Леніна перадаў выданні канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, у бібліятэку імя Уладзіміра Караткевіча — серыі паэтычных зборнікаў. Надзяляў Давід кнігамі і сваіх сяброў-прыяцеляў, у тым ліку і мяне.

Калі якую сур'ёзную кнігу ён чытаў асабліва засяроджана і ўдумліва, дык зазвычай пакідаў паміж старонак свае «фірмовыя» закладкі — вузенькія палоскі, нарэзаныя са шчыльнай паперы, з пазначкамі на іх.

У свой час я даведаўся і быў уражаны тым, што Давід ніколі не чытае кнігі лежачы, толькі за сталом, не разгібаючы спіны. Не адпачываў з кнігай, а працаваў з ёй.

Калі ён дарыў мне аднойчы такую адметную кнігу, я прасіў: «Давід Рыгоравіч, толькі не даставайце з яе закладкі, няхай так і застаюцца паміж старонкамі...».

...І яны засталіся. У маёй памяці таксама.

*Друкуецца ў скароце*

## Сустрэча пісьменнікаў Украіны і Польшчы

Літаратурная сустрэча ўкраінскіх і польскіх пісьменнікаў адбылася ў Кракаве.

Больш за 30 украінскіх пісьменнікаў з розных гарадоў Польшчы, у асноўным тыя, хто апынуўся ў краіне як бежанцы, а таксама кракаўскіх паэтаў, празаікаў і перакладчыкаў сабраліся, каб пазнаёміцца, прадставіць сваю творчасць і пагутарыць. Арганізатарамі і мадэратарамі сустрэчы выступілі Ганна Гулінская (Польшча) і Юлія Бэрэжко-Камінськакая (Кабінет маладога аўтара НСПУ, Украіна).


Фота Юліі Бэрэжко-Камінськай

Прысутныя ў нефармальнай абстаноўцы з гарбатай і кавай расказалі аб сваім жыцці і творчасці да вайны і цяпер, прачыталі некаторыя ўласныя творы, прапанавалі тэмы для будучых сустрэч. Адным з вядучых меркаванняў прысутных была неабходнасць узаемнага адкрыцця культур Польшчы і Украіны і больш цеснага супрацоўніцтва.

Польскія калегі выказалі захапленне лексічным багаццем украінскай мовы і падкрэслілі, што цяпер займаюцца яе вывучэннем — як для лепшага разумення ўкраінцаў, так і для будучага магчымага супрацоўніцтва.

Некаторыя з прысутных таксама доўгі час жылі ў Польшчы, але засумавалі па гучанні роднай мовы і паэзіі, таму прыйшлі на мерапрыемства.

Нягледзячы на вельмі цяжкі эмацыйны фон, слёзы, якія ўвесь час выступалі на вачах прысутных, атмасфера цеплыні і сардэчнасці сустрэчы стала па-сапраўднаму гаючай. «Культура заўсёды па-за часам. Гэты эканамічны крызіс, гэтая эпідэмія, цяпер гэтая вайна. Таму мы павінны збіраць, захоўваць, распаўсюджваць і ўзбагачаць родныя культуры. А сёння — асабліва», — выказаўся пра пазіцыю пісьменнікаў-землякоў адзін з украінскіх пісьменнікаў.

## Барыс Акунін — пра чорна-белы час

Зварот вядомага пісьменніка апублікаваў адзін з расійскіх тэлеграм-каналаў:

«У чорна-белыя часы даводзіцца паўтараць відавочныя ісціны, нікуды ад гэтага не падзенешся. Піша мне нейкая Алена, заклікае «стаць на бок Расіі», бо «сорамна не падтрымліваць сваю краіну». Тое ж ці прыкладна тое ж пішуць і іншыя. І без канца цытуюць Сяргея Бадрова: «Падчас вайны нельга казаць дрэнна пра сваіх. Ніколі. Нават калі яны не маюць рацыі».

Адкажу Алене і ўсім астатнім тут. Дадайце да слоў Бадрова ў канцы: «, – сказаў салдат вермахта», і вам стане не па сабе.

Тыя, хто на баку Зла, сваімі не бываюць. Інакш ты сам становішся часцінкай Зла. Сорамна быць на баку Зла, Алена.

Зло — гэта тыднямі хлусіць на вышэйшым узроўні, што «гэта проста вучэнні» і ніхто ні на каго не нападзе, а потым напасці ноччу, па-бандыцку, без абвяшчэння вайны.

Зло — забіваць людзей і разбураць гарады ў чужой краіне, дзе цябе сустракаюць як захопніка.

Дэкларацыя Зла – абвяшчаць на галоўным тэлеканале (цытую): «Трэба ўсім усвядоміць, што наперадзе мабілізацыя і глабальная вайна на выжыванне, на знішчэнне ўсіх нашых ворагаў. Нашая нацыянальная ідэалогія — вайна. І адзіная задача наша, нашай улады, гэта растлумачыць і давесці ўсяму расійскаму народу гэты гераічны вобраз нашай будучыні».

Што ж, расіяне, давядзецца вам дзяліцца на тых, хто згодны і хто не згодны лічыць нацыянальнай ідэалогіяй вайну».



## Прэмія Свабоды

Украінскі пісьменнік і музыка Сергій Жадан, ураджэнец украінскага Харкава, атрымаў Прэмію Свабоды Германіі.


Фота poland2day.com

Прэмія заснавана фондам легендарнага журналіста і выдаўца Франка Шырмахера. На сваёй старонцы ў Facebook С. Жадан паведаміў, што ахвяруе ўсе прэміяльныя сродкі на дапамогу ўкраінскім вайскоўцам.

«Сёлетняя Прэмія Свабоды ўручаецца ўпершыню разам з традыцыйнай прэміяй фонда. Мы дзякуем арганізатарам за гэты жэст падтрымкі Украіны — для нас сёння ўвага і падтрымка свету сапраўды вельмі важныя. Грашовы складнік прэміі — 10 000 швейцарскіх франкаў — з задавальненнем аддам на патрэбы валанцёраў: куплю пару аўтобусаў для добрых людзей. Працягваем працаваць! Мы працуем на перамогу!», — адзначыў Сергій Жадан.

## «Дэмантаж» Пушкіна

У горадзе Канатоп Сумскай вобласці Украіны быў дэмантаваны помнік рускаму паэту Аляксандру Пушкіну. Помнік быў усталяваны ў 1947 годзе ў парку імя Кірава.

Ва Украіне ўжо былі дэмантаваны помнікі Пушкіну ў Мукачава, Тэрнопалі, Ужгарадзе. Таксама ў мінулыя месяцы былі дэмантаваны помнікі Максіму Горкаму і іншым вядомым асобам Расіі.

## Гогаль — на аўкцыёне

Адзіны прыжыццёвы збор твораў Мікалая Гогаля выстаўлены на аўкцыённыя таргі за 2 мільёны 800 тысяч расійскіх рублёў.

Кніжны камплект складаецца з чатырох асобнікаў: «Вечары на хутары ля Дзіканькі», «Міргарад. Аповесці, якія служаць працягам "Вечароў на хутары ля Дзіканькі"», «Аповесці» і «Камедыі». Усе яны ў дыхтоўных паўскураных вокладках той эпохі.

Выйшлі кнігі з друкарні А. Барадзіна і К° 180 гадоў таму — у 1842-ім. Асобнікі змяшчаюць уладальніцкія подпісы і дапоўнены двума літаграфаванымі партрэтамі аўтара. На абароце тытульнага ліста першага тома ёсць адбітак асабістай пячаткі Мікалая Гогаля. Верагодна, гэта замяняла дароўны надпіс.



Фота cultureoeuvre.com

Першы і адзіны прыжыццёвы збор твораў Мікалая Гогаля быў аддрукаваны ў той час, калі аўтар жыў за мяжой і меў сур'ёзныя матэрыяльныя праблемы. Яго сябар і рэдактар паэт Мікалай Пракаповіч, на якога былі ўскладзены клопаты аб выданні, не асабліва спраўляўся з даручэннем (друк каштаваў удвая даражэй, чым меркавалася).

Адметна, што выданне атрымалася рэдкае, у прыватнасці, праз вельмі тонкую паперу. На гэта наракаў і сам Мікалай Васільевіч у лісце Пракаповічу ад 24 верасня 1843 года: «Выданне твораў маіх выйшла не ў тым цалкам выглядзе, як я думаў, і віною, зразумела, гэтаму я, не распарадзіўшыся акуратней. Кнігі, я ўяўляў, выйдуць высакароднай таўшчыні, а замест таго яны такія тоненькія... Подлы друкар даў гідкую паперу, яна такая тонкая, што прадзімаецца, і кошт 25 рублёў нават здаецца цяпер вялікім, у параўнанні з маленькімі томікамі. Выдадзена наогул даволі спраўна і старанна. Закраліся памылкі, але, я думаю, яны адбыліся ад няправільнага арыгінала і належаць пісцу ці нават мне. Усё, што ад выдаўца, – то добра, што ад друкарні – то агідна. Літары таксама подлыя. Я вінаваты моцна ва ўсім».

Ці не занадта самакрытычнае прызнанне ад класіка?

## Пах старых кніг

На Literary Hub далі навуковае тлумачэнне жадання кнігалюбаў удыхаць водар старых кніг і раскрылі хімічныя рэакцыі, якія ляжаць у аснове «нюхальнай бібліяманіі».

Беручы ў рукі старую кнігу, чытач адчувае водар пажоўклых старонак, адчувае пах... вядзьмарства і вандраванняў у часе.

Пах старых кніг залежыць ад іх павольнага хімічнага распаду. Яны ў асноўным складаюцца з паперы, а папера — з раслін. Але матэрыялы, з якіх зроблены кнігі, мяняліся на працягу стагоддзяў — і гэтыя змены, у сваю чаргу, паўплывалі на тое, як пахнуць кнігі розных «пакаленняў».

Да 1845 года паперу для кніг выраблялі з баваўняных і льняных ануч. Гэтыя матэрыялы ўтрымлівалі высокі адсотак цэлюлозы, свайго роду палімера, які надае раслінам калянасць. Цэлюлоза на працягу многіх гадоў у значнай ступені стабільная ў паперы, у адрозненне ад свайго стрыечнага брата лігніну, іншага расліннага палімера, часта прысутнага ў паперы.

У 1840-х гадах быў вынайдзены працэс вытворчасці паперы з валокнаў драўніны. Атрымалася папера, якая была менш трывалай, чым папера з бавоўны ці лёну, але яна стала больш распаўсюджанай і таннейшай.

Папера з драўніны мае высокае ўтрыманне лігніну. Папера больш высокай якасці, як правіла, утрымлівае менш лігніну, чым газетная. У дрэвах лігнін звязвае цэлюлозныя валокны разам і надае драўніне дадатковую аснову, што лічыцца пажаданай якасцю для пераплётнай справы.

Тое, што не ўсведамлялі першыя выдаўцы, стала ўрокам, апрабаваным часам: лігнін моцны на працягу жыцця расліны, але ён схільны да разбуральнага распаду «пасля смерці». Калі лігнін акісляецца, ён распадаецца на кіслоты, якія раз'ядаюць цэлюлозу паперы і робяць старонкі жоўтымі. Усе гэтыя працэсы распаду вылучаюць лятучыя арганічныя злучэнні, якія надаюць характэрны пах старым кнігам.

Прыкладна ў 1970 годзе ўвялі бескіслотную паперу, якая выдаляла вялікую частку шкоднага лігніну, таму сучасныя кнігі распадаюцца-«паміраюць» значна павольней. Аднак нават без лігніну цэлюлоза ў канчатковым выніку распадаецца і вылучае пах. Пах кніг зліваецца з пахам пакояў і чытачоў, якія іх звычайна займаюць. Водар кніг адлюстроўвае навакольнае асяроддзе, у якім яны доўгі час знаходзіліся: асабліва вільготная, задымленая, сонечная ці неправетрываная прастора. Калі гэтыя пакоі з'яўляюцца знакавымі, як, напрыклад, бібліятэка Рэна ў саборы Святога Паўла ў Лондане, то сам пах можна лічыць адчувальнай часткай спадчыны гэтага месца.

Аналізуючы лятучыя арганічныя злучэнні, якія вылучаюць кнігі, даследнікі могуць вызначыць, з якіх матэрыялаў было зроблена выданне, вызначыць узрост кнігі і тое, ці ёсць якія-небудзь катастрафічныя працэсы, якія магчыма спыніць.

Зусім новыя кнігі таксама маюць выразны пах, хаця і менш незвычайны. У сучаснай вытворчасці паперы выкарыстоўваюцца хімічныя рэчывы, такія, як гідраксід натрыю («каўстычная сода»), для павышэння ўзроўню pH і пашырэння валокнаў цэлюлозы. Гэтыя валокны таксама можна адбяліць у перакісе вадароду, а затым змяшаць з вялікай колькасцю вады з дадаваннем дымера алкілкетэна, які робіць паперу больш водатрывалай. Гэтыя хімічныя рэчывы распадаюцца з рознай хуткасцю, па чарзе вылучаючы пахі. Розныя чарнілы і клеі, якія выкарыстоўваюцца для змацавання кніг, робяць тое ж самае.

Як толькі кніга ствараецца, яна пачынае разбурацца. Гэта хімічны працэс, які мы адчуваем па паху.